ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 21 (2371)

26 мая 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

## НАМ БЫ ДЫ ІХ УМОВЫ

### ГУТАРКА З ГАЛОЎНЫМ НЕЙРАХІРУРГАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Фёдарам АЛЯШКЕВІЧАМ

Нядаўна я ўбачыў у доўгім спісе новых акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў Акадэміі навук Беларусі і яго прозвішча. Прызнаюся, ніколі ні за кога так не радаваўся, як за Фёдара Васільевіча. І не толькі таму, што ён падараваў мне жыццё (Аляшкевіч для мяне нібы другі бацька). Яшчэ больш усцешыўся, давеДаўшыся, як дасталіся Фёдару Васільевічу лаўры члена-карэспандэнта. Гэту прыступку ў акадэмічнай іерархіі павінен быў заняць іншы. Але не спрацавала старая машына галасавання. Нягледзячы на ўсе намаганні, апрацоўку акадэмікаў ды розныя хітрыкі, ва ўпартай барацьбе перамог Аляшкевіч. Аб'ектыўна быў ацэнены ўклад у навуку і медыцынскую практыку гэтага таленавітага чалавека.

Ні слава, ні званні, ні пасады не мяняюць характар, нораў і аблічча сялянскага сына з Навагрудчыны. Ні прафесарскай ганарыстасці, ні апломбу, заўсёды даступны і просты, з гумарам нават у самыя цяжкія хвіліны жыцця (а колькі іх у яго было!). У 7 гадзін раніцы ён ужо на працы, а 7-й вечара вяртаецца дадому, дзе чакаюць жонка Ірына Аляксандраўна, таксама ўрач, малодшы сын Алесь з нявесткай і ўнукам. Ён лічыць сябе шчаслівым чалавекам, бо з радасцю ідзе на працу і з радасцю вяртаецца дадому -- да сям'і. Хаця праца гэта, як на мой погляд, дык амаль што катаржная.

— У нас на тыдні чатыры аперацыйныя дні. Кожны дзень у мяне, як мінімум, адна аперацыя, -- расказвае прафесар Аляшкевіч. -- А бывае і дзве, і тры. Потым яшчэ ў Навінках у бальніцы кожны чацвер аперацыя.

Гэта не лічачы лекцый у медінстытуце, дзе ён вядзе кафедру нервовых і нейрахірургічных хвароб, Рэспубліканскага Цэнтра па хірургічнаму лячэнню эпілепсіі, кіраўніком якога з'яўляецца Аляшкевіч, і мноства "драбнейшых" абавязкаў.

У суботу ці нядзелю любіць выбрацца на дачу, якую збудаваў уласнымі рукамі. Але і там яго "дастаюць": здарылася дзе бяда, -- прыязджаюць па Фёдара Васільевіча. Кароткая дарога ў Мінск, а там на машыну ці санітарны самалёт і ў любы куток Беларусі, дзе без яго не могуць даць рады. Такі напаўспартанскі спосаб жыцця яго цалкам задавальняе.

Мне часта хочацца ўявіць Фёдара Аляшкевіча там, на Захадзе, можа ва ўласнай клініцы, і напэўна ж не ў цеснаватай як на дзве сям'і кватэры, дзе прафесар нават не мае свайго кабінета, не на старэнькім аўтамабілі і, вядома ж, не пры такой жабрацкай зарплаце.

-- Вялікіх грошай у мяне ніколі не было, -- чую я ў адказ на свае разважанні ад Фёдара Васільевіча, -- і я лічыў, што яны мне не патрэбны, бо не ў гэтым справа. Хто сядзіць на вялікіх грошах, таму можа жывецца яшчэ горай. Я -- чалавек без вялікіх прэтэнзій. Канешне, добра было б мець лепшыя ўмовы жыцця, каб не думаць, дзе што дастаць...

А прапановы працаваць за мяжой у Фёдара Аляшкевіча былі і ёсць. Прапаноўвалі ў Йемен -- арганізоўваць кафедру, але адмовіўся. Прыязджалі да галоўнага нейрахірурга калегі з Францыі, пагладзелі, як ён робіць аперацыі, пабеглі ў міністэрства: дайце нам гэтага хірурга хаця б на год. У Аляшкевіча зноў жа вялікай ахвоты не было.

-- А так, каб назусім, -- катэгарычна гаворыць Аляшкевіч, -- не стаўлю такой мэты. Я нарадзіўся ў Беларусі, тут вучыўся, тут нечага дамогся, дык ужо буду карысным чымнебудзь для сваіх людзей. Вядома, там працаваць добра. Летась быў я ў Германіі: такія ж аперацыі робяць, як і мы, але ж магчымасці ў іх...

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПЕРАД ВЫБАРАМ



**Апрыкра ўжо гэта палітыка ўсім. Але хочам мы таго ці не, перадвыбарная віхура зацягвае, бадай што, кожнага ў эпіцэнтр палітычнай барацьбы. Прэм'ер-міністр гастралюе па Беларусі, агітуючы за сваю персону і абяцаючы, пасля таго, як усядзецца ў прэзідэнцкае крэсла, і эфектыўную працу, і высокія заробкі, і нават зніжэнне цэн. Сапернікі прэм'ера таксама не спяць у шапку. Ім цяжэй, бо акрамя мэра Маладзечна Генадзя Карпенкі, ніхто не сабраў неабходных 70 подпісаў дэпутатаў парламента. Значыць, трэба мець, прынамсі, 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў у сваю падтрымку. І зборшчыкі пайшлі па дамах, у калектывы прадпрыемстваў, на вуліцы гарадоў. Нягледзячы на жыццёвыя праблемы, якія ўзнікаюць перад беларусам штодня, ён павінен яшчэ ламаць галаву: каму з прэтэндэнтаў аддаць перавагу? Хто яго ашчасліўіць? Збор подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты скончыўся да 15 мая. Цяпер будзем чакаць прысуду Цэнтральнай выбарчай камісіі: каго афіцыйна аб'явяць кандыдатам у прэзідэнты Беларусі?**

**НА ЗДЫМКУ: збор подпісаў за лідэра апазіцыі Зянона Пазьняка.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## Уладзімір КОНАН: ПОСТАЦЬ АДРАДЖЭННЯ

## ВЕРНІК АД ВЕДАЎ

"НА ПАЧАТКУ было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова".

Хто з вернікаў, хто хаця б з большага адукаваных людзей не ведае гэтых слоў?

Логас Боскі, Слова Боскае -- як унутраны закон жыцця свету. Як аснова дзеянняў, учынкаў. Як грунт існавання. Цэнтр духоўны.

Менавіта да гэтага, Найвысокага і Светлага, накіроўваюцца тыя, для каго Вышэйшая Праўда пазначаецца ў шматлікіх і разнастайных выявах духоўнага вопыту. У выявах рэальнасці і рэчаіснасці. У канкрэтнай дзейнасці.

Калі весці гаворку пра постаці насці да ўсясветнага, усеагульнага.

Уладзімір Конан пісаў гісторыю духу свайго народа. Пісаў у гады, здавалася б, не надта спрыяльныя. Але, як згадваў сам У. Конан у гутарцы з карэспандэнтам "ЛіМа" Юрасём Залоскам, "уся надзея наша ўскладвалася на пазнанне, што, як вядома, робіць людзей свабоднымі. Культ школы, літаратуры, універсітэта -- вось што было нашым Богам і нашай малітвай".

Уладзімір Конан, паводле гэтых ягоных слоў, вернік адданы. Апантаны. Сталы.

Пазнаваць. Ведаць, Аналізаваць. Пазначаць сістэму. Глядзець на свет, на сённяшняга нашага жыцця духоўнага, дык адной з самых адметных і прыкметных, тых, што імкнуцца дапасці да Крыніцы Жыцця, да Боскай рэальнасці трэба назваць адным з найпершых Уладзіміра Конана.

...Распачаў ён свой творчы шлях напачатку 60-х. Калі і ў літаратуру, і ў мастацтва, і ў навуку на хвалі "адлігі" прыйшло пакаленне, што пазней так і будуць пазначаць: шасцідзесятнікі.

...Уладзімір Конан, маючы на ўвазе ідэю гістарызму як зыходную ў навуцы, пачаў з распрацовак гісторыі філасофіі, гісторыі культуры, філасофіі гісторыі і ў яе межах -- філасофіі культуры. На Беларусі.

Ведучы гаворку пра мастацкую свядомасць і эстэтычную думку ў 1917--1934 гадах (кандыдацкая дысертацыя, 1964), ён заглыбляецца ў вякі і разам з Э. Дарашэвічам разглядае эстэтычныя погляды на Беларусі ад эпохі сярэднявечча да 1917 года ("Очерки истории эстетической мысли Белоруссии", М., 1972). Працягвае размову ў кнігах "От Ренессанса к классицизму" (Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI--XVIII вв.), "Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в.".

Руплівы і надзвычай працавіты архівіст, У. Конан, займаючыся праблемамі мастацкай свядомасці, адначасова, па сутнасці, накрэслівае гісторыю літаратуры, мастацтва і журналістыкі (памеры працы цэлых калектываў), пазначае субстанцыяльнае ў гісторыі, той самы дзейны дух, паводле Гегеля, які адыгрывае сусветна-гістарычную ролю ў станаўленні духу.

Дзейны дух нацыі... Менавіта так. Бо ўсе працы Уладзіміра Конана -- сцвярджэнне матэрыялізаванага ў слове, музыцы, відавіскаў выяўленчых, у эстэтычнай, тэарэтычнай думцы -- нацыянальнага духу. У датычз'явы культуры ў гістарычным, паэтапным развіцці.

Выдатны знаўца фактаў, ён свядома выбіраў спосаб даследавання: не эмпірычна-плоскасны, не лінейны, а глыбінны, аб'ёмны, стэрэаскапічны. Шкада, што акадэмічныя інстытуты не вельмі заўважалі гэтыя рэальныя распрацоўкі (за выключэннем, мабыць, інстытута літаратуры), гэты творчы метад. Гісторыя тэатра, гісторыя музычнага тэатра рабіліся як рэестр пастановак, прозвішчаў кампазітараў, драматургаў, рэжысёраў, актораў: дзеля "навуковага" грунту дадаваліся (у храналагічным парадку) цытаты з пастаноў уладных органаў. (Гісторыі жывапісу пашанцавала — зусім ужо непісьменныя працы Л. Дробава і М. Кацара апрацоўвалі (чытай — перапісвалі) Уладзімір Караткевіч і Арсень Ліс).

...Уладзімір Конан церабіў свой уласны шлях. Арыентуючыся на класічныя ўзоры сусветнай думкі: Г.-В.Ф. Гегеля, А. Шпенглера, М. Хайдэгера, М. Бярдзяева, У. Салаўёва, В. Розанава... Вызначаючы -- спачатку для сябе, а пазней і для іншых -- постаці, што мецілі мастацкую свядомасць, культуралагічныя вышыні, менталітэт беларусаў: Францыск Скарына, Сымон Будны, Аніёл Доўгірд, Мікола Гусоўскі, Саламон Майман... Максім Багдановіч, Уладзімір Самойла (Суліма), Ігнат Канчэўскі (Абдзіраловіч), Антон Луцкевіч, Аляксандр Цвікевіч...

Пазначаў свой шлях ужо ў гады так званага "застою". Быў духоўна вольны. Незалежны. Умеў знайсці арыенціры. Умеў знайсці матэрыялы для даследавання. Ды і не было ўсё пад шчыльнай забаронай, як сёння часам імкнуцца ўявіць. Сам У. Конан пазначае: "...творы Салаўёва" ён "чытаў у студэнцкія гады (другая палова 50-х) у менскіх бібліятэках, праграмныя творы Бярдзяева -- па першапублікацыях у маскоўскай ленінскай бібліятэцы".

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ

## ЗА НАЙБОЛЬШ РЭАЛЬНАГА ПРЭТЭНДЭНТА

**Сакратарыят управы БНФ зрабіў заяву, у якой паведамляе, што прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта краіны старшыня БНФ, кіраўнік апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі Зянон Пазьняк набраў найбольшую колькасць подпісаў сярод тых, хто пры зборы подпісаў не выкарыстоўваў дзяржаўны апарат. Гэта сведчыць пра тое, што Зянон Пазьняк -- найбольш рэальны прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта сярод палітыкаў дэмакратычнай арыентацыі.**

**Выступаючы за адзінства дэмакратычных сіл на прэзідэнцкіх выбарах і беручы пад увагу магчымае раздрабленне галасоў выбаршчыкаў паміж кандыдатамі дэмакратычнай арыентацыі, што можа "прывесці да перамогі рэакцыйных, камуністычных, праімперскіх сілаў", БНФ заклікае тых прэтэндэнтаў, якія залічаюць сябе да дэмакратычных, а таксама іхнія каманды, разглядзець магчымасць зняцця сваіх кандыдатур на карысць кандыдатуры найбольш рэальнага прэтэндэнта. Гэты крок, безумоўна, паспрыяў бы адзінству і будучай перамозе дэмакратычных сілаў Беларусі, гаворыцца ў заяве сакратарыята управы БНФ.**

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## ТАК НАСТРОЕНЫ ПАЛАЧАНЕ

**Сацыялагічны цэнтр Полацкага Дзяржаўнага універсітэта па заказу Наваполацкага гарвыканкома 25--30 красавіка бягучага года правёў даследаванне грамадска-палітычнага становішча ў горадзе. На пытанне: "Ці прымеце вы ўдзел у выбарах першага прэзідэнта Беларусі?" станоўчы адказ далі 65,4 працэнта навапалачан, адмоўны -- 15,0 працэнта, і яшчэ пакуль не вырашылі -- 21,6 працэнта. У апытальны ліст было ўключана 12 прозвішчаў зарэгістраваных на той час прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта. Калі б выбары прэзідэнта адбываліся на момант правядзення даследавання, то галасы патэнцыяльных выбаршчыкаў размеркаваліся б наступным чынам:**

| | |
|---|---|
| Лукашэнка | 30,8% |
| Шушкевіч | 23,2% |
| Кебіч | 15,9% |
| Пазьняк | 10,1% |
| Карпенка | 6,4% |
| Новікаў | 6,0% |
| Карагін | 2,1%. |

ПОГЛЯД З МАГІЛЁВА

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

**сацыялагічнага цэнтра і "Магілёўскіх ведамасцяў" паказаў, што будучы прэзідэнт абавязаны мець сям'ю, мець эканамічную ці юрыдычную падрыхтоўку і, натуральна, быць мужчынам. Больш за 41 працэнт апытаных лічаць, што будучы прэзідэнт павінен прытрымлівацца сацыял-дэмакратычных поглядаў, 23 -- камуністычных і толькі 6,6 працэнта -- капіталістычных.**

**З прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду найбольшую колькасць ачкоў набралі Вячаслаў Кебіч і Аляксандр Лукашэнка.**

ЦЭНТРВЫБАРКОМ

## ПАД АХОВАЙ МІЛІЦЫІ

**З 15 мая работа Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праходзіць пад аховай нарада міліцыі.**

**Пост ахоўнікаў парадку ўстаноўлены для таго, каб пазбегнуць ціску збоку на членаў камісіі пры падліку галасоў і праверцы падпісных лістоў, сабраных ініцыятыўнымі групамі прэтэндэнтаў.**

ІНІЦЫЯТЫВА КЕБІЧА

## НАС НЕ ЎСЁ ЗАДАВАЛЬНЯЕ

**Старшыня ўрада Беларусі Вячаслаў Кебіч заявіў аб намеры выступіць у бліжэйшы час з ініцыятывай перагляду знешнегандлёвай палітыкі краіны.**

**У эксклюзіўным інтэрв'ю "Інтэрфаксу" Вячаслаў Кебіч даў зразумець, што ўзначальваемы ім Кабінет міністраў не задавальняе ўзнікшая сітуацыя, "калі буйнейшыя заходнія дзяржавы са скрыпам прадастаўляюць Беларусі вельмі невялікія квоты" на рэалізацыю на Захадзе беларускіх тавараў, у прыватнасці ў тэкстыль і здабываемыя ў Беларусі калійныя солі, што карыстаюцца ў Еўропе вялікім попытам. На думку В.Кебіча, калі Захад не пускае Беларусь на свае рынкі, то чаму Беларусь павінна закрываць вочы на тое, што еўрапейскія суперындустрыі -- аўтамабільная, кандытарская, радыёэлектронная, піўная, тытунёвая і іншыя -- гандлююць у Беларусі вольна, без якіх-небудзь квот.**

**Як адзначыў В.Кебіч, праблема рынкаў збыту існуе не толькі ў Беларусі, але і практычна ва ўсіх дзяржавах СНД. Таму мэтазгодна гэтыя пытанні вырашаць у рамках усёй Садружнасці. Прэм'ер-міністр заявіў: "Відаць, адпаведную прапанову я ўнясу на разгляд кіраўнікоў урадаў краін СНД ужо на бліжэйшай нашай сустрэчы".**

ДЭМІЛІТАРЫЗАЦЫЯ

## РАКЕТЫ ВЫВОЗЯЦЦА Ў РАСІЮ

**Першы эшалон з пускавымі ўстаноўкамі і іншай тэхнікай стратэгічных ракетных комплексаў РС-12м узяў сёння курс са станцыі паблізу Слуцка ў Расію. Выводзіцца адзін з палкоў Мазырскай ракетнай дывізіі. На тэрыторыі Беларусі застаюцца яшчэ дзве такія дывізіі, якія будуць адпраўлены на разукамплектаванне ў Расію да канца 1995 года. 36 пускавых установак у адпаведнасці з графікам будуць вывезены ў Расію ўжо ў гэтым годзе.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

**Быць ці не быць Дагавору аб аб'яднанні грашовых сістэм з Расіяй цяпер залежыць ад вынікаў выбараў прэзідэнта ў Беларусі. Аб гэтым заявіў, выступаючы 17 мая ў Гродне перад кіраўнікамі прадпрыемстваў прамысловасці, будаўніцтва, транспарту і сувязі, а таксама ўпраўленняў і аддзелаў аблвыканкома, абласных службаў, старшынямі райгарвыканкомаў, Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч. Ён падкрэсліў, што "гэта не так грашовы саюз, як эканамічны, і падпісваецца ён не на два-тры месяцы, а на ўсе вякі. І я ўпэўнены, што такі саюз будзе, як упэўнены і ў тым, што і Украіна падключыцца да яго". Паводле слоў прэм'ера, у бліжэйшы час аб уступленні ў эканамічны саюз заявіць і Таджыкістан.**

*"Практычна ніякага дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм у прыродзе не існуе. Няма асноватворных пагадненняў па бюджэтнай сістэме і па грашовай сістэме. Яны проста не падпісаны.*

*Па майму глыбокаму перакананню, у той форме, якая прапанавана, іх нельга падпісваць. І не толькі таму, што яны супярэчаць Канстытуцыі, а таму, што яны супярэчаць інтарэсам дзяржавы Беларусь, яе народа і эканомікі.*

*Яшчэ раз падкрэсліваю, я за інтэграцыю, за стварэнне валютнага саюза, нават за ўвядзенне на першым этапе агульнай валюты ў выглядзе расійскага рубля. Але пры ўмове, калі на пульсе, вобразна кажучы, кіравання эканомікай на тэрыторыі Беларусі будуць нашы рукі, а не чужыя. Мы самі павінны адказваць перад сваім народам".*

*(Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі).*

ТАКАЯ ВОСЬ ДЭМАКРАТЫЯ

## ЗНОЎ ПРА СІМВОЛІКУ

**Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць накіраваў пісьмо Старшыні Вярхоўнага Савета Мячаславу Грыбу і Старшыні Савета Міністраў Вячаславу Кебічу, у якім прапануецца тэрмінова склікаць пазачарговую сесію парламента для разгляду пытання аб дзеючай сімволіцы Рэспублікі Беларусь, таму што яна "зневажае памяць загінуўшых і жывых удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, паколькі скарыстоўвалася мясцовымі памагатымі акупантаў", і ўваходзіць "у недапушчальную супярэчнасць са зместам свята" 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**У пісьме ўтрымліваецца напамінак, што з просьбай адмяніць дзеючую сімволіку звярнуліся да кіраўніцтва рэспублікі ветэраны Вялікай Айчыннай. "Воля ветэранаў свяшчэнна, паколькі ўсё тое, што мае сёння народ Беларусі, уключаючы само жыццё, -- вынік іх самаадданых намаганняў і крыві, пралітай за гонар, незалежнасць і само існаванне Айчыны", -- гаворыцца ў пісьме.**

ЮБІЛЕІ



**Юбілей адзначае адна з самых маладых навучальных устаноў рэспублікі -- Гомельскі дзяржаўны універсітэт. Яму споўнілася 25 гадоў. За гэты параўнаўча невялікі тэрмін выкладчыкамі і студэнтамі зроблена нямала. Многія распрацоўкі студэнцкага канструктарскага бюро знайшлі прымяненне ў народнай гаспадарцы. Выпускнікі універсітэта працуюць сёння ў многіх кутках рэспублікі і за яе межамі.**

**Апошнім часам вучоныя універсітэта актыўна займаюцца даследаваннем культурнай спадчыны Францішка Скарыны. У музеі-лабараторыі сабраны вялікі матэрыял пра яго жыццё і творчасць. А самой навучальнай установе ў 1988 годзе прысвоена імя Францішка Скарыны.**

**НА ЗДЫМКУ: сёлетні навучальны год студэнты-фізікі ўжо заканчваюць у новым корпусе, што стаў пятым па ліку ва універсітэцкім комплексе.**

РЫНКІ ЗБЫТУ

## ПРАЗ ДЖУНГЛІ КАНКУРЭНЦЫІ

**Новыя рынкі збыту сваёй прадукцыі асвойвае Мінскі аўтазавод (МАЗ). Да традыцыйных для завода краін Афрыкі, Блізкага Усходу, Кітая і Расіі дадаваліся Аргенціна, Чылі і Саудаўская Аравія.**

**Дастаўкі беларускіх грузавікоў ажыццяўляюцца сёння ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі з боку заходнееўрапейскіх і амерыканскіх кампаній. У мінулым годзе МАЗам экспартавана 1 533 адзінкі аўтатэхнікі, што складае 5,6 працэнта ад агульнага выпуску аўтамабіляў, і абарот валюты склаў 18,5 мільёна долараў ЗША, што на 30 працэнтаў больш, чым у 1992 годзе.**

САЦЫЯЛЬНЫ ПРАТЭСТ

## ВАЙНА — ПАЛАЦАМ?

**У пачатку года быў падараваны дом аднаго з будаўнічых начальнікаў Светлагорскага аб'яднання "Хімвалакно" Фралянкова, прычым яго катэдж падрываўся двойчы. І вось новы выбух. Гэтым разам пацярпеў двухпавярховы асабняк генеральнага дырэктара "Хімвалакна" Анатоля Джуса. Яго дом быў узведзены каля вёскі Расава, што недалёка ад Светлагорска.**

ПАМЯЦЬ



**У гістарычным цэнтры беларускай сталіцы, на востраве каля Траецкага прадмесця, пачалося будаўніцтва помніка загінуўшым воінам-інтэрнацыяналістам. 14 мая адбыўся мітынг, прысвечаны яго закладцы.**

**Пасля мітынгу ў падмурак помніка паклалі капсулы, у якіх будуць захоўвацца лісты з імёнамі ўсіх сыноў нашай рэспублікі, якія загінулі за яе межамі, а таксама зямля, узятая на месцы баёў у Афганістане, і зямля, дастаўленая дэлегацыямі краін СНД і абласцей Рэспублікі Беларусь. На цырымоніі закладкі помніка прысутнічаў прэм'ер Беларусі В. Кебіч.**

**НА ЗДЫМКУ: закладка капсул.**

# НАМ БЫ ДЫ ІХ УМОВЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Сем клінік наведаў прафесар Аляшкевіч у Берліне, быў у нейрахірургаў Вены, на сімпозіуме ў Індыі. Наглядзеўся, як там працуюць, -- цяжка стала.

-- Каб у нас была такая апаратура, то праблем не было б. Выходжванне хворых, лекі розныя -- ні ў якое параўнанне не ідзе з нашымі ўмовамі, -- уздыхае Фёдар Васільевіч. -- Я ім казаў: каб мы былі на вашым месцы, то рабілі б аперацыі не горай, а як вы трапілі б да нас, то рады не далі б. Нічога не атрымалася б. Такіх умоў, як у нас, і ворагу не пажадаеш. А цяпер што творыцца!..

Нават вучні Фёдара Аляшкевіча з Блізкага Усходу, з Афрыкі, якія тут, у Мінску, пад яго кіраўніцтвам і апекай абаранілі кандыдацкія дысертацыі, цяпер маюць свае прыватныя клінікі, добра ўладкаваліся, бо там -- не ў нас, -- добры спецыяліст высока цэніцца.

І ўсё ж, лезу ў душу прафесара, ці не было ў яго такой хвіліны, такога моманту, калі на ўсё хацелася б махнуць рукой.

-- Былі ў мяне такія хвіліны адчаю ці што... Нават краіну выбраў -- Арабскія Эміраты.

Прафесару Аляшкевічу павінна прыйсці запрашэнне. Але ён ведае, што нікуды адсюль, з гэтай гаротнай зямлі не паедзе, ніякая сіла не адарве ад яе.

Чалавек мае права на хвілінныя слабасці.

-- Нейрахірургія... У маім уяўленні, Фёдар Васільевіч, узнікае такое параўнанне: каваль, які можа падкаваць каня -- гэта звычайны хірург, напэўна, а каваль, які прымацуе падковы да ног блыхі, -- гэта ўжо ваш калега нейрахірург. Ці можа я не маю рацыі? Што такое сённяшняя нейрахірургія?

-- Мяркую, што ваша параўнанне да месца. Сучасная нейрахірургія -- гэта такія аперацыі, якія цяпер у нас не робяцца без павелічальнай апаратуры, добрага асвятлення і адмысловага мікрахірургічнага інструментарыя. Калі рабіць аперацыю на добрым сучасным узроўні. Канешне, як маеш справу, напрыклад, з анеўрызмай памерам з прасянное зерне, у якой сценка тоненькая, бы цыгарэтная папера, прасвечваецца кроў і бачна, як яна там пульсуе, і трэба на яе налажыць адмысловы кліпс і перацiснуць яе, каб пазбегнуць далейшага кровазліцця, то найперш трэба, каб рука не траслася, трэба мець упэўненасць. І добра арыентавацца і ў анатоміі: гэта ж аперацыя ў глыбокай мазгавой ране. Шоўны матэрыял павінен быць танчэйшы за чалавечы волас.

Вядома, цяпер дыягностыка стала зусім іншай. Маем апаратуру, якая без розных кантрастных рэчываў, што ўводзіліся ў арганізм, дае нам дакладны дыягназ. Нам дапамагае камп'ютэрная тамаграфія, ядзерна-магнітны рэзананс. Усё гэта -- заходняя тэхніка. У нас ёсць і свае камп'ютэрныя тамографы, але ўзровень іх такі, які быў на Захадзе можа гадоў 20 назад.

Праблем у сучаснай беларускай нейрахірургіі процьма. Пачынаючы з таго, што няма чым лячыць хворых. Людзі самі шукаюць лякарствы, купляюць іх за валюту. Клініка тое-сёе дастае праз гуманітарную дапамогу. Інструменты нейкія прыходзяць. Апаратура, якая ўжо была ў карыстанні. Але яна яшчэ добрая. На Захадзе яе дэманціруюць, прывозяць да нас, устанаўліваюць і даюць гарантыі, што яна яшчэ будзе працаваць некалькі год. Што ж, нам і з чужога пляча адзежына прыдасца, для нас і гэта добра, бо свайго не маем.

-- Я раблю інструменты на гадзіннікавым заводзе. То некаму з начальства аперацыю зробіш, то яго сваяку дапаможаш. А потым ідзеш да таго начальніка, просіш, моліш. Я і цяпер карыстаюся тым інструментам, што зрабіў на нашым гадзіннікавым яшчэ гадоў дзесяць назад. Да нас і раней паступала цэнтралізавана ад саюзнага Міністэрства аховы здароўя толькі тое, што заставалася для перыферыі ад цэнтра, а цяпер і таго няма. Мусім самі пра ўсё дбаць.

-- Фёдар Васільевіч, як вы мяркуеце, ці мае права нейрахірург на памылку? Ці часта вас спасцігалі няўдачы і як вы пераносіце іх? Ці доўга "адыходзіце"?

-- Без памылак у медыцынскай практыцы не абыходзіцца. Але памылкі ёсць розныя: ад таго, што ты нечага яшчэ не ведаеш, што гэта -- складаная справа. Мозг -- гэта вялікая таямніца. Хто адкажа, чаму толькі 5 працэнтаў нашага мозгу працуе? А астатняя частка што робіць? Мы яшчэ шмат чаго не ведаем, таму і памылкі непазбежныя. Памылкі пры аперацыях, памылкі ў пастаноўцы дыягназу. Зачапіў пінцэтам больш груба анеўрызму і -- моцны крывацёк. Каб справіцца з ім, трэба рабіць аперацыю зноў. Памылка? Памылка. І яе нельга прадказаць. А вынікі бываюць розныя -- ці хворы застаецца калекай, ці памірае.

За мінулы год у нас, у нейрахірургіі, памерла больш за 200 чалавек. І не толькі пасля няўдалых аперацый. Тры чацвёртыя -- ад цяжкіх траўмаў. Ходзіш каля такога чалавека, хацелася б дапамагчы, а там ужо ўсё так разбіта, раструшчана, што нічога не зробіш. А ёсць такія хворыя, што паміраюць ад злаякаснай пухліны. Але ж таксама -- перажыванні.

А бывае такое, што мог нешта зрабіць і нават зрабіў добра аперацыю, але потым недагледзелі -- гэта ўжо трагедыя. Тады мне бывае цяжка. У такіх выпадках я іду ў аперацыйную і працую, працую, працую. Тут толькі забываюся, што адбылося, бо мая мэта -- дапамагчы іншым. Думкі скіроўваюцца на іншы шлях. Час сціраае боль.

-- Ваша жыццё -- пастаянныя эмоцыі, як вы трываеце ў такім стане?

-- Як той маятнік у гадзінніку -- то туды, то сюды. І перажыванні, і напружанне, і эмоцыі -- гэта жыццё нейрахірурга.

-- Як вы ставіцеся да палітыкі? Вас цікавіць тое, што адбываецца ў Вярхоўным Савеце? Што думаеце пра прэзідэнцкія выбары?

-- Да палітыкі знешне адносшуся быццам бы нейтральна, але ўнутры... На жаль, у нас у палітыцы, на мой погляд, зашмат непрафесіяналаў. Намі кіруюць некампетэнтныя людзі. Гэткая ж некампетэнтнасць і ў нашым Міністэрстве аховы здароўя. Няма чалавека, які б добра разбіраўся ў справе. Там нарабілі столькі аддзелаў, столькі людзей сядзіць, якія проста перакладваюць паперкі. З майго пункту гледжання, хапіла б і дзесятай часткі іх. Яны не робяць нічога карыснага, а рознымі дабротамі карыстаюцца больш, чым тыя, хто непасрэдна аказвае дапамогу хворым. Іх нічога, акрамя даведкі ды справаздачы, не турбуе. А як муштруюць! Якую хочуць табе зарплату вызначаць, каму захочуць, льготы дадуць. Яны маюць магчымасць атрымаць пуцёўку, каб паехаць на любы курорт адпачыць, я нават на тую ж Нарач за сваю зарплату цяпер пуцёўкі не куплю.

Што датычыцца розных палітычных падзей, ну той жа рублёвай зоны, прэзідэнцкіх выбараў, то не лічу сябе прафесіяналам, каб нешта сцвярджаць ці абвяргаць. А меркаваць павярхоўна, як у нашым міністэрстве, не хачу. Я галоўны нейрахірург рэспублікі, а мне даюць рэкамендацыі міністэрскія чыноўнікі як і што рабіць, як працаваць, дзе колькі людзей паставіць. І ўсё гэта не для карысці грамадства, для паляпшэння справы, а як лепш сабе. А гэта супярэчыць агульным інтарэсам.

І яшчэ я хацеў бы сказаць пра палітыку: мы не маем поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі.

-- Што для вас значыць быць грамадзянінам Беларусі? Як вы ставіцеся да яе суверэнітэта?

-- Мы былі беларусамі, калі ўваходзілі ў Саюз, засталіся беларусамі і цяпер. Мая Радзіма -- Беларусь, якой я не магу ніколі здрадзіць, якую ні на што не прамяняю. Думаецца мне, што самастойнасць гэта някепска, каб толькі ўсё рабілася з галавой, з розумам. Не трэба падкрэсліваць выключнасць беларуса, а як ужо рускі, дык ледзь не вораг мне. Людзі ўсе -- людзі. Якая розніца, каму баліць, хто хворы. Для нас, нейрахірургаў і сёння не існуе ніякіх межаў, прынамсі, псіхалагічных. Ва ўсіх адзін клопат: як дапамагчы чалавеку, ратаваць яго жыццё.

Некалькі гадзін, праведзеных у гутарцы з Фёдарам Васільевічам Аляшкевічам, прынеслі мне шчырае задавальненне. Не толькі ад таго, што гэта проста цікавы, высокаадукаваны чалавек, -- мы гутарылі на беларускай мове. Свабодна і лёгка. Гэта яшчэ раз пераканала мяне ў тым, што мы можам быць самі сабой.

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА КРОЧЫЦЬ У СВЕТ

Цяплом, сонцам, чырвоным полымем цюльпанаў сустрэў Будапешт удзельнікаў Міжнароднага кніжнага фестывалю, які праходзіў тут у шыкоўным Цэнтры кангрэсаў.

Каля двухсот выдавецкіх фірм Францыі, Венгрыі, Германіі, Іспаніі, Румыніі, Прыбалтыкі запоўнілі адмыслова абсталяваныя блакітныя салоны кніжнай прадукцыяй. Зусім не згубіўся сярод іх і стэнд Рэспублікі Беларусь, які па волі арганізатараў суседнічаў са стэндамі Украіны і Славеніі. Выдавецтвы "Мастацкая літаратура", "Навука і тэхніка", "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, Беларускі культурна-адукацыйны цэнтр і прыватная выдавецкая фірма "Стары Свет" прывезлі на фестываль кнігі 69 назваў.

Беларускай кнігаю цікавіліся. У многіх наведвальнікаў было жаданне яе купіць, але задаволіць яго, на жаль, не маглі. Бо ў нашай дэлегацыі (яе ўзначальваў каардынатар праграм фонду Сораса -- Беларусь Алесь Анціпенка) была папярэдняя дамоўленасць з бібліятэкаю Цэнтральнага еўрапейскага універсітэта і кафедрай славістыкі Будапешцкага універсітэта аб тым, што мы падорым ім па паасобніку кожнай прывезенай кнігі. Беларусам прыемна было пачуць ад супрацоўнікаў кафедры, што з першага верасня новага навучальнага года ва універсітэце пачынаюць вывучаць беларускую мову як адну з буйнейшых славянскіх моў. І добрымі дарадцамі студэнтаў у гэтай справе будуць кнігі нашых вядомых пісьменнікаў -- А. Кудраўца, Я. Сіпакова, У. Калесніка, А. Разанава, В. Казько, У. Арлова, Л. Геніюш і інш.

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ





**Камера фотакарэспандэнта "выхапіла" такія звычайныя і паўсядзённыя карцінкі нашага жыцця. Здавалася б , ну што тут асаблівага: сядзяць на баулах, чамаданах і розных там клунках і кайстрах людзі; працуюць на вуліцах горада (у даным выпадку Мінска) маляры!.. Гэта як паглядзяцець. Паміж тымі і другімі пралягла вялікая мяжа.**

**Першыя, што сядзяць на баулах, зарабляюць хлеб свой надзённы даволі лёгка і проста. Умова адна: трэба мець добрага знаёмага ці сваяка недзе ў гандлі, праўдамі і няпраўдамі (хутчэй за ўсё апошняе) купіць (чытайце -- дастаць) дэфіцытны тавар і адправіцца за мяжу. Такі спосаб заробку грошай называецца камерцыйным турызмам. За мяжу вывозіцца такім чынам да пяцідзесяці працэнтаў усіх прамысловых і харчовых тавараў.**

**Камерцыйны турызм -- сапраўдная хвароба. Той, хто хоць раз паспрабаваў заняцца ім, ужо не захоча ўладкоўвацца ў дзяржаўную ўстанову ці на прадпрыемства, займацца фізічнай працай. Цяга да нажывы прыводзіць нават да трагедый: распадаюцца сем'і, духоўнаму калецтву падвяргаюцца дзеці, робяцца беспрытульнымі, неадукаванымі.**

**А што рабіць тым, у каго няма магчымасці заняцца спекуляцыйным (будзем называць рэчы сваімі імёнамі!) гандлем, камерцыйнымі паездкамі за мяжу? Браць пэндзаль і фарбаваць агароджы, сцены забудоў. Гэта -- калі пашанцуе. Бо не толькі маляром, але і дворнікам у Мінску ўладкавацца не кожнаму ўдаецца.**

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ЗА СМУГОЙ ДАЎНІНЫ

# СМЕРЦЬ АЛЬГЕРДА

Нядобрую вестку прынеслі нечаканыя ганцы на ўзмыленых конях. Вялікі князь Альгерд, выходзячы з-за стала, пахіснуўся, ухапіўся рукой за край абруса і паволі асунуўся долу. Неяк адразу, у адзін момант, паявіліся злавесныя прыкметы блізкай смерці: уваліліся і страцілі жывы бляск вочы, абвастрыліся скулы, амаль чорная сінюха заліла звычайна пунсовыя губы і пазногці скурчаных пальцаў... Васьмідзесяцігадовага гаспадара перанеслі ў нарожную павалушу Вышняга замка. Лекар у шэрай сутане францысканскага манаха павярнуўся да вялікай княгіні Ульяны і бездапаможна развёў рукамі, затым прыплюшчыў правае вока і кіўнуў галавой у бок дзвярэй.

-- Міласцівая княгіня...

-- Не трэба, святы айцец, -- перапыніла яго Ульяна, -- усё зразумела і так. Скажыце, колькі працягне яшчэ вялікі князь?

Убраная ў чорны строй, падобны на адзенне праваслаўных манашак, яна патрабавальна глядзела прама яму ў вочы: "Гавары ўсё, як ёсць!".

-- Дні два-тры... Не больш... -- ён нахіліўся і зашаптаў княгіні ў самае вуха: -- Калі не перадумалі, самы час ахрысціць вялікага князя ў вашу веру... Ноччу...

Яна дакранулася сухой далонню да пляча лекара і вярнулася ў павалушу, дзе на засланай мядзведжай шкурай лаве канаў уладар вялізнай дзяржавы, межы якой ахоплівалі тэрыторыю ў 800 тысяч квадратных кіламетраў. Княгіня штосьці сказала аднаму з пахолкаў, што знаходзіліся каля хворага. Той пачціва пакланіўся і подбегам пакінуў пакой.

Ульяна нахілілася над Альгердам і мокрым кончыкам ручніка абцерла засмаглыя губы мужа. Вялікі князь расплюшчыў вочы і ледзь чутна сказаў:

-- Пашлі за Ягайлай.. І зрабі тое, што я табе даўно абяцаў...

Альгерд змоўк, некалькі хвілін цяжка дыхаў, усім ротам ловячы паветра. Аддыхаўшыся, крыва ўсміхнуўся:

-- Во, дажыў -- нават гаварыць цяжка. Задыхаўся, узмок увесь, быццам мэтар[1] жыта на Тураву гару занёс. Скажы, каб бярозавіку прынеслі. Халоднага, а то ў грудзях агнём пячэ.

-- Зашкодзіць, мо, яшчэ?

-- Мне, Юльяна, цяпер нічога не зашкодзіць...

А спадкаемца віленскага стальца тым часам у кампаніі свайго брата Скіргайлы і Вайдылы, бацькавага пісара, весела бавіўся з дзяцінства ўлюбёным заняткам. З дваццаці васьмі пражытых гадоў ён, бадай, палову правёў у пушчы. Сёння Ягайле пашанцавала. На ўзыходзе сонца гучкі ўзнялі невялікі гурт дзікоў. Вялізны, пудоў на пятнаццаць, сякач заўважыў паляўнічага адразу ж, як толькі выскачыў з хмызу. Крутануўшыся на месцы, ён, як ашалелы, панёсся прама на яго. Ягайла здрыгануўся і адчуў, як пахаладала спіна, але з месца не сышоў, толькі на імгненне скасіў вока на прыхіленую да дуба дзіду. Паляванне на дзіка лічылася больш небяспечным, чым на мядзведзя. Нездарма асочнікі гаварылі: "Ідучы на мядзведзя -- засцілай ложак, а на дзіка -- пасылай за папом". Уздыбіўшы на гарбатым карку каляную шчаціну і прыгнуўшы да зямлі іклыстую пысу з вялікім, як конскі капыт, лычом, вяпрук ішоў ва-банк. Ён нейкім сваім звярыным інстынктам зразумеў, што выйсце ў яго адно: перамагчы двуногую істоту або загінуць. У сіле сваёй дзік не сумняваўся. Вядомыя выпадкі, калі раз'юшаны сякач адным няўлоўным узмахам галавы перабіваў трохграннымі іклamі хрыбет няўдалага паляўнічага.

Ягайла набраў поўныя грудзі паветра, злажыўся, прыжмурыў левае вока і павольна нацягнуў тугую цеціву лука, цэлячыся пад левую лапатку. Калі да дзіка заставалася метраў шэсцьдзесят, расступіў пальцы. Як жыгнула цеціва і коратка ціўкнула страла, ён не чуў, затое ўбачыў, што дрэўка стралы амаль да паловы ўвайшло якраз у тое месца, куды цэліў. Вяпрук глуха рохнуў, прабег яшчэ некалькі крокаў і, як падсечаны, зваліўся на мох.

Якраз у гэты момант з'явіліся ганцы. Распытаўшы пасланцоў і пераканаўшыся ў сур'ёзнасці моманту, звычайна марудлівы Ягайла гэтым разам доўга не думаў. Адным махам узляцеў у сядло і, сцяўшы зубы, сцебануў каня. На ходу абярнуўся, хрыпла выгукнуў: "У Вільню!". Хутка невялікая кавалькада вершнікаў паімчалася ўслед за маладым князем. Коні літаральна слаліся над зямлёю, выкідваючы з-пад капытоў перамешаныя з травою мяккія камякі вільготнай лясной зямлі. На паўдарозе перaселі на свежых коней і зноў паляцелі на ўсю моц.

Ягайла шчыра любіў бацьку і быў моцна засмучаны атрыманай весткай. Хацелася застаць яго жывым, апошні раз выказаць сваю сыноўскую прывязанасць і павагу. Спяшацца вымушалі і іншыя прычыны. Неабходна было як мага хутчэй пераняць вярхоўную ўладу, адразу ж пасля скону вялікага князя ўзяць яе ў свае рукі, каб папярэдзіць магчымыя згрызоты. Не даць разгарэцца варажнечы паміж сваякамі. Ён ведаў, што старэйшыя браты былі незадаволены выбарам бацькі. Лічылі сябе больш здатнымі і годнымі віленскага пасада. Пакуль жыў бацька, ніхто з дванаццаці яго сыноў не выказваў адкрыта сваіх прэтэнзій. але адносіны паміж ім і некаторымі братамі змяніліся, сталі іншымі, як толькі Альгерд афіцыйна выказаў сваю волю. Знікла былая шчырасць, ён заўважыў, што браты пачалі пазбягаць яго, а пры сустрэчах касавурыліся, адводзілі ўбок вочы. Ды і чуткі розныя даходзілі пра размовы і нават пагрозы, крыўдныя мянушкі. Неяк, з паўгода назад, ён падзяліўся сваімі сумненнямі з бацькам. Вялікі князь доўга маўчаў, задумліва барабаніў пальцамі па стале.

-- Вось, што я табе скажу, -- нарэшце загаварыў ён, -- бачу, не памыліўся. Сумненне -- першая прыкмета сталасці розуму. А то я ўжо пачаў думаць, што ў тваёй галаве акрамя паляўніцтва нічога няма. А твае падазрэнні маюць падставу. Я так кажу не таму, што маю нейкія доказы, а таму, што трэба ніколі не аслабляць пільнасць, умець адрозніваць шчырасць ад фальшу. Інакш застанешся адзін... Улада, сыне, зваблівая рэч. Колькі галоў скацілася з-за яе, а ахвотнікі на столец вялікакняжацкі не зводзяцца, шчэрацца па-за вуголлі, момант зручны чакаюць. Аб смерці маёй багоў моляць, ахвяр Перуну не шкадуюць...

-- Табе яшчэ, бацька, жыць ды жыць, а ты пра смерць...

-- Не, сыне, адтупаў я сваё. Надоечы маці прыходзіла, сказала: у траўні сустрэнемся.

-- Людзі кажуць, спіцца дык і сніцца.

Альгерд адхлябнуў з паліванага збанка нейкай рудой, падобнай на яблычны ўзвар вадкасці, паскардзіўся:

-- Пояць нейкай брыдотай, а хадзіць з кожным днём цяжэй. Праўду кажа дзед Нупрэй -- чалавек старэе з ног. Учора спусціўся ўніз, а назад узняцца сам ужо не здолеў. Добра, што нікога лішняга не было... Калі высахлі сокі, дык не памогуць і лёкі. -- Вялікі князь падцягнуў вышэй на калені воўчае покрыва і сказаў: -- Збіліся мы з табою з тропу. Пачалі пра адно, а гаворым пра другое. Пра што я табе казаў? Ага, аб ахвочых да ўлады. Дык вось, запомні на ўсё жыццё: здраджваюць свае. Першым уздыме меч брат кроўны, якому верыш, як самому сабе. Так падрэжа, што не заўсёды на нагах утрымаешся.

-- Дык каму ж тады верыць? -- спытаўся ашаломлены Ягайла.

-- Безаглядна толькі матцы і Вайдыле.

-- Пісарчыку твайму, які яшчэ пазалетась у гродскага пекара ў чаляднікаx хадзіў?

Альгерд паблажліва ўсміхнуўся, разгладзіў костачкай сагнутага пальца бялюткія, бы воўна ярачкі, вусы і, прыцішыўшы голас, адказаў:

-- Як самому сабе, а чаму, скажу пазней. Пакуль яшчэ рана... А не паспею, ад маткі даведаешся. Яна ведае... Стаміўся. Пайду прылягу.

"Зусім нямоглы", -- з балючай спагадай падумаў Ягайла, дапамагаючы бацьку ўзняцца з абцягнутага воўчай шкурай крэсла, і адчуў, як нейкі пякучы камяк цяжка варухнуўся ў грудзях.

Ля дзвярэй Альгерд спыніўся, абапёрся абедзвюма рукамі на кавеньку, як калісьці на меч, аддыхаўся:

-- Кейстут абяцаў падтрымліваць цябе. Думаю, стрымае сваё слова. Столец вялікакняжацкі, ён тады, калі Яўнуту плаксівага з бацькавага пасада сцягнуў, мне, як старэйшаму векам, самахоць саступіў. Амаль трыццаць два гады пражылі мы з ім душа ў душу. І ні разу вярхоўнай уладай не спакусіўся. А былі моманты -- толькі выцягні руку, і яна твая. А, дарэчы, усё можа стацца, калі мяне не будзе... Не для сябе... Стары ўжо... Аб Вітаўту можа паклапаціцца... Дужа ён яго кахае... Таму і кажу табе: будзь абачлівым, рашучым...

Некалі магутны ўладар, які пашырыў межы дзяржавы ад Балтыйскага да Чорнага мора, засопся, пераступіў з адной нагі на другую, прыплюшчыў глыбока пасаджаныя пад кашлатымі брывамі вочы.

-- Цяжка мне гаварыць пра сыноў гэтак, але мушу сказаць: найбольш братоў сцеражыся. Андрэя асабліва. Гэты пойдзе на ўсё. Нават на змову з нашымі ворагамі заклятымі...

І вось цяпер, гонячы галопам каня, да апошняга слова прыгадаў гаворку з бацькам. Думкі, бы патрывожаны рой, мітусіліся ўсю дарогу, няспынна гулі ў галаве. Ён ведаў, што смерць гаспадара дзяржавы заўсёды абуджае затоеныя да пары памкненні, штурхае на непрадбачаныя ўчынкі -- кровапраліцце, братазабойства, забурэнне ў гаспадарстве. Ягайла заплюшчыў вочы і, бы ў сне, убачыў сваю шматлікую радню, а яе, сапраўды, было многа. Адных братоў родных -- ажно адзінаццаць, звыш сарака стрыечных, а дзядзькоў, швагроў, пляменнікаў -- цэлая харугва набярэцца. Ягайла перасмыкнуў плячыма, сцебануў грывастага аргамака нагайкай і, адганяючы змрочныя думкі, крыкнуў: "Не адставай, камора! Гайда!"

Вершнікі выскачылі на паляну і віхрам панесліся ўздоўж парослага чэзлым бярэзнікам балота, перасеклі зарасці ляшчыны і апынуліся на беразе Віллі, якраз ля перуновага капішча, ад якога да Вільні рукой падаць.

[1] Мэтар -- цэнтнер.

**Станіслаў ЦЯРОХІН.**

**(Заканчэнне будзе).**

## *РЭПАРТАЖ З ПРЭЗЕНТАЦЫІ*




# БАЦЬКАЎШЧЫНЕ АДДАНЫЯ

У аўторак, 17 траўня, у зале Нацыянальнай бібліятэкі (былая Ленінка) адбылася прэзентацыя дзвюх кніг -- Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд" і Паўлы Урбана "Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў".

Імя першага з іх добра вядома як на Бацькаўшчыне, так і сярод беларусаў замежжа. Мо як ніхто іншы, на сённяшні час, Мікола Ермаловіч увасабляе годнасць і нязломнасць беларуса, яго праўдалюбнасць і спрадвечную працавітасць, здольнасць выжываць у самых цяжкіх, самых неспрыяльных абставінах.

Цяпер, калі зробленае Міколам Ермаловічам афіцыйна прызнана, -- ён з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі і літаратурнай імя Уладзіміра Караткевіча -- аж цяжка паверыць, што яшчэ пяць-дзесяць гадоў назад яго цкавалі на ўсіх перакрыжаваннях, так званых навуковых канферэнцыях, дзе ўсё глыбей закопвалася праўда пра слаўнае мінулае Беларусі, ды рабілася ўсё належнае дзеля таго, каб сфарміраваць "новую историческую общность", гэта значыць людзей без роду і племені, пазбаўленых памяці, вядомых сёння пад назвай манкуртаў.

Трэба было быць сапраўдным волатам духу, каб пайсці насустрач усім вятрам і выйсці з супрацьборства пераможцам. Бо апрача агульных, былі і свае цяжкасці: усё больш слабеў зрок, урачы зусім забаранялі яму займацца навуковай дзейнасцю. А ён кожнае раніцы, нягледзячы на сонца, слату і мароз, садзіўся на электрычку, ехаў на некалькі гадзін у сталічную бібліятэку, па абедзе вяртаўся дахаты і склейваў, каб неяк зарабіць на пражыццё, кардонныя каробкі, а ў гэты час яго жонка, узнёслай душы чалавек, чытала яму навуковую літаратуру. Так, крок за крокам, угрызаўся ён у тоўшчу гісторыі, па зярнятку збіраў тое, што пазней увасобілася ў манументальнае даследаванне "Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагародскі перыяды" і цяпер знайшло працяг у толькі што выдадзеным "Віленскім перыядзе".

Імя Паўлы Урбана дасюль на Беларусі было менш вядомым, пераважна толькі тым, хто і ў часы "жалезных занавесаў" шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў на свет, ды чытаў не толькі тое, што пісалася па распараджэнню "руководящей и направляющей". Правафланговым такіх эталонна-выверaных гісторыкаў быў чалавек з нянаскім прозвішчам, незабыўны Абэцэдарскі, па падручніках якога вучыліся малыя і дарослыя. Ім была напісана брашура-інструкцыя "У святле неабвержных фактаў", дзе граміліся ўсе, хто хоць на паўкроку адступаў ад дазволенага ў ЦК КПБ. З Абэцэдарскім спрачацца было проста немагчыма, бо гэтага ўлады не дазвалялі. І вось у адказ на кволенькую брашурку з'яўляецца грунтоўнае даследаванне "У святле гістарычных фактаў". Аўтарам кнігі быў беларускі эмігрант з Нямеччыны Паўла Урбан. Абодва выданні -- Абэцэдарскага і Урбана -- варта было б цяпер перавыдаць у Беларусі пад адной вокладкай, каб людзі навочна маглі пераканацца, дзе праўда, а дзе хлусня...

У тым, што Паўла Урбан з'яўляецца сапраўды добрасумленным вучоным, чытач здолее пераканацца і па кнізе "Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў", якая ўздымае пласт новага, невядомага дасюль гістарычнага матэрыялу. Паспрыяла гэтаму і тое, што аўтар, беларус з крыві і касці, значную частку жыцця пражыў за мяжой і дасканала ведае некалькі еўрапейскіх моваў, меў магчымасць на працягу дзесяцігоддзяў вывучаць хронікі, летапісы, мемуары і даследаванні нетутэйшых даследчыкаў, якія, выяўляецца, здавён-даўна цікавіліся Беларуссю і не пазбыліся гэтай цікавасці да нашых дзён.

Разам з названымі дзвюма кнігамі адбылася і прэзентацыя Выдавецкага цэнтра "Бацькаўшчына", у набытку якога, апрача названых, яшчэ тры кнігі: "Пад сінім небам" Наталлі Арсенневай, "Успаміны" Васіля Рагулі і "Мой радавод да пятага калена" Уладзіміра Арлова. Нават па гэтых назвах можна вызначыць, што новая выдавецкая структура, па-першае, арыентуецца на выданне эміграцыйнай і, па-другое, беларускай патрыятычнай літаратуры. Паспрыяла гэтаму, мабыць, тое, што ўзначаліў выдавецтва Яўген Лецка, якому належыць ідэя стварэння Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і некалькі гадоў працы на пасадзе старшыні Рады ў гэтай грамадскай арганізацыі. Але, як выявілася, паміж ім і цяперашнім кіраўніцтвам ЗБС "Бацькаўшчына" дачыненні досыць складаныя, нават не заўсёды і зразумелыя. Як, напрыклад, вытлумачыць тое, што "выбітыя" ў ранейшы час Яўгенам Лецкам плошчы для Згуртавання, у тым ліку і пад выдавецкую дзейнасць, цяпер яму аддаюць у арэнду па коштах, якія ў дзесяткі разоў перавышаюць тыя, якія адміністрацыя ЗБС плоціць гораду?!.

Яўген Лецка не маляваў сваё становішча як цалкам безнадзейнае, а стаўленне да сваёй выдавецкай структуры -- з усіх бакоў непрыхільным. Хутчэй, наадварот, выказваў падзяку за спрыянне з боку Міністэрства культуры і друку, на чале якога стаіць свядомы чалавек Анатоль Бутэвіч,

**НА ЗДЫМКУ: выступленне Ніла ГІЛЕВІЧА на прэзентацыі выданняў "Бацькаўшчыны".**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

25

**СЯЛЯНСТВА.** Дзяржаўныя сяляне Літвы-Беларусі часова вызваляліся расійскай імператрыцай ад дзяржаўных падаткаў. Але гэта мала што давала прыгонным і асабліва тым, хто падпаў пад уладу Расіі ў 90-х гадах XYIII стагоддзя. Іх гаспадарка была падарвана бесперапыннай барацьбой канфедэратаў, пастоямі рускага войска, паўстаннем 1794 года. Аправіцца як след не выпадала. Падатковае абкладанне ў літоўска-беларускіх губернях да 1811 года было ў 4--5 разоў вышэйшым, чым у рускіх. Каб атрымаць больш прадукцыі на продаж ваенным інтэндантам і за мяжу, землеўладальнікі пачалі пераводзіць прыгонных з аброку на ненавісную ім баршчыну. Яна стала асноўнай павіннасцю літоўска-беларускіх сялян. На панскіх палетках працаваць прыходзілася па 6 дзён на тыдні, а то і ў нядзелю. Ні ў адной рускай губерні баршчына не была так пашырана, як на Літве--Беларусі. На сялян навалілася яшчэ рэкруцкая павіннасць. Царскі ўрад забіраў ад матак і маладух у салдаты лепшых сялянскіх юнакоў на 25 год. У Вялікім Княстве Літоўскім сяляне такой павіннасці не ведалі. Войска там было наёмным, прафесійным.

Далучэнне да Расіі азначала для літоўска-беларускіх сялян узмацненне прыгону. Ён вылучаўся тут асаблівай жорсткасцю, бо прыгоннікамі былі рускія і апалячаныя паны, пераважная большасць якіх ставілася да простага мясцовага насельніцтва як да нявольнікаў, як да тубыльцаў тубыльцаў.

Становішча вёскі рабілася невыносным -- і яна адказала на ўзросшы ўціск антыпанскімі бун-

26

тамі ўжо на другі год (1796) пасля канчатковага захопу Вялікага Княства Літоўскага. Сялянскі рух удалося спыніць з дапамогай войска толькі ў сярэдзіне 1797 года. Вяскоўцы беглі з праваслаўнай Расіі-"выратавальніцы" на Беласточчыну пад уладу пратэстанцкай Прусіі.

Не без уплыву сялянскага руху на захопленых землях Павел I выдаў у 1797 годзе маніфест, у якім раіў панам імперыі не прымушаць сялян працаваць у сваіх маёнтках больш трох дзён на тыдні і ў нядзелю. Гэтаксама і Аляксандр I у рэскрыпце 1803 года аб вольных хлебаробах даваў панам права вызваляць сваіх сялян ад прыгону. Гаварыць аб нейкіх рэальных выніках для сялянства ад такіх царскіх міласцяў не даводзіцца, бо ўся сістэма гаспадарання ў Расійскай імперыі трымалася на прымусовай працы.

**ГАРАДЖАНЕ.** Жыхары гарадоў Літвы-Беларусі заставаліся вольнымі ад прыгону і ў Расіі. Толькі тут, у адрозненне ад рускіх губерняў, меліся яшчэ і мястэчкі (гарадкі). Яны і нават некаторыя гарады належалі магнатам, бо размяшчаліся на іх землях. Царскі ўрад доўга не мог вырашыць, куды аднесці гэтыя мястэчкі -- да паселішчаў гарадскіх ці сельскіх. Карыстаючыся гэтым, магнаты тую частку мястэчак, дзе пражывалі вольныя мяшчане-хлебаробы, аб'яўлялі вёскамі, а іх пераважна хрысціянскае насельніцтва пераводзілі ў разрад прыгонных сялян. У абцятых мястэчках заставалася практычна толькі яўрэйскае насельніцтва. Абапіраючыся на царскую ўладу, паны абкладвалі местачковых іудзеяў усё новымі і новымі

27

паборамі, бо запрыгоньваць яўрэяў у Расіі па прыкладу Вялікага Княства Літоўскага забаранялася. У той жа час насельніцтва прыватнаўласніцкіх мястэчак і гарадоў пазбавілася ў Расійскай імперыі ад юрыдычнага падпарадкавання магнатам. Яно падлягала грамадска-дзяржаўнаму суду.

Гараджане страцілі ў Расіі самакіраванне, якое давала ім магдэбургскае права, вельмі пашыранае ў гарадах Вялікага Княства Літоўскага, але невядомае ў царскай імперыі. Гарадскія думы рускага ўзору, якія выбіраліся ў гарадах узамен ратуш, ды і пакінутыя ў асобных месцах ратушы былі цалкам падпарадкаваны царскай адміністрацыі.

Ваенныя падрыхтоўванні царызму далі штуршок не толькі шляхецкаму, але і купецкаму прадпрымальніцтву на Літве-Беларусі. Мясцовыя купцы пачалі адкрываць мануфактуры, для працы ў якіх набіралі вольнанаёмных рабочых. Але найбольшую выгаду яны мелі ад дзяржаўных падрадаў на будаўніцтва дарог, пасрэдніцкай дзейнасці па забеспячэнню неабходнымі прадуктамі рускага войска, гандлю з замежжам, які пасля адмены вывазных пошлін на сельскагаспадарчыя тавары стаў вельмі прыбытковым. На буйныя кірмашы Літвы-Беларусі -- Зэльвенскі (Гродзенская губерня), Бешанковіцкі (Віцебская губерня), Мінскі з усяго наваколля звозіліся гандлярамі лён, пянька, алей, воск, шчаціннe ды іншыя тавары. Там яны складваліся ў вялікія партыі і па Заходняй Дзвіне, Нёману адпраўляліся на заходнееўрапейскі рынак.

Літоўска-беларускія купцы вялі зацікаўлены

28

гандаль і з Украінай. Уніз па Дняпру сплаўляліся лес і прадукты яго апрацоўкі. Прыгатаваннем і продажам дзёгцю і паташу займаліся нават сяляне. Выходзіць жа на ўнутраны рынак цэнтральнай Расіі купцам Літвы-Беларусі не мела сэнсу. Ён быў аднатыпным з мясцовым, а таму не вызначаўся вялікім попытам на літоўска-беларускія тавары. Расійскія спажыўцы маглі купіць тую ж сельскагаспадарчую прадукцыю і лес у сябе на месцы. Спажывецкі рынак самой Літвы-Беларусі не вылучаўся глыбінёй. У замежных прамысловых рэчах і ласунках мелі патрэбу толькі шляхецкая арыстакратыя ды заможнае купецтва. Сяляне і мяшчане задавальняліся ўласнымі вырабамі ды вырабамі рамеснікаў. І такое становішча захоўвалася на працягу ўсяго XIX стагоддзя.

Гандлёва-прамысловая дзейнасць ускладнялася ў Расіі вялікім падатковым абкладаннем і дыскрымінацыяй. З іудзейскіх гандляроў і рамеснікаў браліся падаткі ўдвая большыя, чым з прадпрымальнікаў хрысціянскіх. Царскі ўказ 1794 года ўводзіў для яўрэяў мяжу аселасці, якая прыкладна супадала з межамі былога Вялікага Княства Літоўскага. Унутраныя рускія губерні агароджваліся такім чынам ад непажаданай канкурэнцыі з боку выкрутлівых яўрэйскіх гандляроў і прамыслоўцаў. Гэты заканадаўчы акт лішні раз пацвярджае, што царскі ўрад добра разумеў неідэнтычнасць беларусаў і рускіх. Інтарэсы карэнных расіян ён абараняў, а для народаў былога Вялікага Княства Літоўскага ствараў своеасаблівую рэзервацыю.

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

29

**ЯКІЯ Ж ВЫНІКІ МЕЛА ЎВАРВАННЕ РАСІІ Ў НАШ ГІСТАРЫЧНЫ ЛЁС!**

Па-першае, шляхам замацавання літоўска-беларускіх зямель пад уладай рускай абсалютнай манархіі перарвалася тэндэнцыя, якая ўжо акрэслілася, да пераходу ад шляхецкай да дэмакратычнай рэспублікі. Гэта быў крок назад да ўмацавання прыгонніцтва, да здзекаў і гвалтаў над чалавечай асобай.

Па-другое, Літва-Беларусь апынулася ў складзе эканамічна адсталай краіны. Расійская імперыя не магла ніякім іншым чынам паспрыяць гаспадарчаму прагрэсу краю, акрамя як яго мілітарызацыяй. Яна не мела сіл большых, чым на ваенна-адміністрацыйнае падпарадкаванне захопленых зямель. Гэта была моцная ваенная дзяржава, якая не магла не ўцягваць наш народ у свае бясконцыя захопніцкія авантуры.

## 4. ПАЛАНІЗАЦЫЯ АД ІМЯ РУСКАГА ЦАРА

Выгнанне Напалеона не мела для Літвы--Беларусі ніякіх палітычных выгад. Па-ранейшаму яе далейшы лёс знаходзіўся ў руках чужынцаў і ў значнай ступені вызначаўся барацьбой рускіх і палякаў за культурны ўплыў на літоўска-беларускіх землях. І напачатку палякі, узяўшыя ўзамен зброі веды, паспяхова адбівалі "атакі" сваіх пераможцаў у мінулай вайне. Але, можа, гэтыя поспехі і нас набліжалі да нацыянальнага адраджэння?

30

### 4.1. Урадавая палітыка

**ПОГЛЯДЫ ВЯРХОЎ НА ЛІТВУ--БЕЛАРУСЬ.** Аляксандр I заўсёды выяўляў свае сімпатыі да Польшчы. Не абышлося тут і без уплыву езуіцкага ордэна. Яго дзейнасць была спынена ў 1773 годзе па загаду рымскага папы. Але езуіты знайшлі сабе прытулак у Расіі і мелі падтрымку з боку царскага двара. Сярод блізкіх сяброў імператара быў Адам Чартарыскі, прадстаўнік польскай арыстакратыі. Ён уваходзіў у склад царскага інтымнага камітэта, дзе выпрацоўваўся палітычны курс Расіі, а пазней заняў пасаду таварыша міністра чужаземных спраў. Зразумела, што і Аляксандр I, і яго акружэнне глядзелі на Літву--Беларусь вачыма Чартарыскага. Літоўска-беларускія землі ўспрымаліся ў рускім грамадстве як польскія. Нават вучоныя людзі не ведалі, што літоўска-беларускі край меў раней сваю дзяржаўнасць і зберагаў самабытную культуру. І толькі дзеячы кацярынаўскай эпохі, такія як паэт Дзяржавін, гісторык Карамзін, упарта трымаліся старых поглядаў і лічылі Літву--Беларусь краем рускім, а не польскім. І ніхто тады не прызнаваў яго самабытнасці.

**ЕЎРАПЕЙСКІ КАНТЭКСТ.** Пасля перамогі над Напалеонам Аляксандр I разлічваў узяць пад свой пратэктарат герцагства Варшаўскае. Адам Чартарыскі прапаноўваў цару далучыць да герцагства літоўска-беларускія землі і ўтварыць такім чынам Польскае каралеўства, якое б падпарадкоўвалася Расіі. Гэтыя планы ўдалося час-

31

тква здзейсніць. Агульнаеўрапейскі кангрэс манархаў, што працаваў у Вене ў канцы 1814--1915 гадоў, перадаў Расіі значную частку герцагства Варшаўскага за яе заслугі ў перамозе над напалеонаўскай Францыяй. А вось падпарадкаваць Варшаве Літву--Беларусь Аляксандр I не адважыўся, бо сутыкнуўся з варожым настроем кіруючых колаў імперыі супраць палякаў, нядаўніх хаўруснікаў Напалеона. Але рускі манарх працягваў патураць палякам на Літве--Беларусі і асабліва ў галіне асветы. Такім чынам ён разлічваў знайсці паразуменне з арыстакратыяй былой Рэчы Паспалітай і паспрыяць умацаванню імперыі.

Асвета займала важнае месца ў палітыцы Аляксандра I і не толькі таму, што ён быў адукаваным манархам і знаходзіўся пад уплывам асветніцкіх ідэй, якія тады панавалі ў Еўропе. Адразу ж пасля захопу Вялікага Княства Літоўскага перад Расіяй устала праблема іх культурнага падпарадкавання. Але візантыйска-азіяцкія традыцыі рускай культуры тут не ўспрымаліся. Літва--Беларусь была бліжэй да еўрапейскіх культурных каштоўнасцей. Гэта прымушала Расійскую імперыю ісці насустрач культурным запатрабаванням заваяваных народаў, еўрапеізавацца самой.

**ФАРМІРАВАННЕ ШКОЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ.** Ужо ўрад Кацярыны II дзеля больш паспяховай русіфікацыі Літвы--Беларусі адкрыў тут новыя рускія народныя вучылішчы, створаныя па ўзору аўстрыйскіх школ. Гэта былі прагрэсіўныя навучальныя ўстановы, у якіх упершыню хлопчыкі і дзяўчынкі, дзеці дваран, купцоў,

32

мяшчан і нават сялян вучыліся разам. Тым не менш, мясцовая шляхта ігнаравала чужыя і штучныя для іх рускія школы, аддаючы перавагу навучальным установам пры кляштарах. Кацярынаўскія ж вучылішчы прыходзілі ў заняпад.

Павел I, які лічыў Літву-Беларусь польскай правінцыяй, імкнуўся замацаваць тут свой уплыў з дапамогай каталіцкай адукацыі. І не выпадкова. Бадай што пры кожным мясцовым касцёле працавала школа. Вялікі аўтарытэт мелі езуіцкія калегіумы (сярэднія навучальныя ўстановы), якія давалі класічную рэлігійную адукацыю еўрапейскага ўзроўню. Каталіцкая школа бесперашкодна паланізавала літоўска-беларускую шляхту і нават рускае дваранства.

**ПАЛІТЫЧНЫ НАКІРУНАК ЦАРСКАГА АСВЕТНІЦТВА.** Аляксандр I як чалавек пераважна еўрапейскай культуры зрабіў найбольш намаганняў для набліжэння Расіі да Захаду. З першых гадоў свайго праўлення імператар правозіў рэфармаванне школьнай справы. Ставілася мэта пашырэння свецкай адукацыі. Пры гэтым быў выкарыстаны вопыт Адукацыйнай Камісіі былой Рэчы Паспалітай. Створанае ў 1802 годзе Міністэрства народнай асветы пачало адкрываць школы трох тыпаў: прыходскія вучылішчы, якія ўтрымліваліся на сродкі мясцовых таварыстваў, павятовыя вучылішчы ды губернскія гімназіі, якія мелі асабісты статут, навучальныя планы і казённае ўтрыманне. Уся Расія дзялілася на 6 вучэбных акруг на чале з папячыцелем і універсітэтам у кожнай. Пасля вайны 1812 года царскае асветніцтва прыняло яшчэ больш выразны палітычны накірунак.



...У сям'і Келераў -- вялікае гора. Іх дачка Элен з дзяцінства пазбаўлена зроку, слыху і мовы. З-за патуранняў старэйшых дзяўчынка ператвараецца ў маленькага тырана. Бацькі не ведаюць, што ім рабіць. Але вось у доме з'яўляецца юная настаўніца Ані, сама ў нядаўнім мінулым сляпая, выхаванка дзіцячага дома.

Як ёй удалося перавыхаваць Элен, расказвае новы спектакль Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача "Стварыўшая цуд". Яго паставіў рэжысёр-пастаноўшчык з Масквы Уладзімір Салюк па аднайменнай п'есе амерыканскага драматурга Уільяма Гібсана.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.

# БАЦЬКАЎШЧЫНЕ АДДАНЫЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

кіраўніцтву паліграфкамбіната імя Якуб Коласа, дзе Выдавецкі цэнтр свае кнігі друкуе, усім добрым людзям, якія разумеюць, што добрая кніга -- надзейны ўклад у наша нацыянальнае, духоўнае Адраджэнне. Менавіта на гэтым засяродзіў увагу прысутных і народны паэт Беларусі, Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. Гаварыў пераканаўча, ярка, узнёсла.

Цікавым было выступленне і доктара юрыдычных навук, знаўцы старажытнай гісторыі, асабліва Статутаў Вялікага Княства Літоўскага, Язэпа Юхо, які пазначыў новыя падыходы ў асэнсаванні беларускай мінуўшчыны і ў асобных момантах палемізаваў з Міколам Ермаловічам і Паўлаю Урбанам, а таксама з Анатолем Белым, які склаў радавод вялікіх князёў ВКЛ, а мастак Алесь Цыркуноў увасобіў гэта на абшырным палотнішчы, што вывешана было перад прысутнымі.

З выступлення Якуба Якубоўскага, гэтай, як называюць яго, хадзячай энцыклапедыі, выявілася, што Мікола Ермаловіч мае вялікія заслугі не толькі перад уласна беларускай гісторыяй, але і перад беларускімі татарамі, з якімі наш народ прайшоў поплеч некалькі стагоддзяў, дзелячы радасць перамогаў і скруху паражэнняў у барацьбе з агульнымі ворагамі.

Выступленне самога Міколы Ермаловіча доўжылася каля гадзіны. Яшчэ раз, слухаючы яго, можна было падзівіцца мацнаце духу, апантанасці гэтага маладога душой чалавека, які ўжо мае за плячыма семдзесят нялёгка пражытых, напоўненых драматызмам гадоў, але і надалей мае намер рабіць усё магчымае, каб наш народ, наша Бацькаўшчына былі вартымі свайго імя.

Арганічна ўпісаліся ў выступленні спевы мужчынскага хору "Унія" -- старажытныя беларускія мелодыі і "Магутны Божа" кампазітара-эмігранта Міколы Равенскага на словы Наталлі Арсенневай.

Такія сустрэчы сапраўды ўмацоўваюць наш дух і надаюць упэўненасці, што, нягледзячы на хібы і перашкоды, Беларусь будзе жыць!

**Я. ВАРАНЕЦ.**

# ВЕРНІК АД ВЕДАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

(Святая праўда -- мы таксама чыталі Салаўёва і Розанава, Шпенглера і Ніцшэ ў студэнцтве ў той жа нашай Alma Mater -- Ленінцы). Дык а Конан тымчасам чытаў, безумоўна, і нашых, беларусаў, тых, згаданых вышэй. Дыпламатычна падаючы свае думкі пра Ластоўскага, напрыклад, не ў мясцовым, а ў маскоўскім выданні: там нашага "чорнага" спіса, мабыць, не было. Ці не глядзелі на яго як на непамысны крымінал: далёка ўсё тое і малавядомае.

У згадванні Ю. Верашчакі (В. Ластоўскага) была, безумоўна, адзнака часу, адзнака афіцыйных "установак". Але на тую пару (1972 год) рызыкнуць выцягнуць з небыцця гэткую персону нон грата было ўчынкам, і ўчынкам небяспечным.

А сённяшняя актыўнасць Уладзіміра Конана, яго заангажаванасць у грамадскім і літаратурным працэсе даюць яму магчымасць пераасэнсаваць свае выказванні. Да спрэчкі, скажам, Вацлава Ластоўскага з Янкам Купалам і Лявонам Гмыракам пра "мастацтва для мастацтва", "чыстую красу", "дэкадэнцтва" Уладзімір Конан вярнуўся праз 20 гадоў хаця б у прадмове да твораў Л. Гмырака, і зірнуў на праблему не азіраючыся на цэнзуру і афіцыйныя недазволы. "...паэзія "чыстай красы" -- гэта не "дэкадэнцтва", не велікасвецкае "эстэцтва", а паглыбленне мастацтва ў сваю ўласную сутнасць".

На тую ж пару, у 70-х, У. Конан насмеліўся ўсё ж цвёрда паставіцца з высновай, што газета "Наша ніва" была "цэнтрам беларускай культуры і беларускага нацыянальнага руху". (Нагадаю, што тымчасам мела афіцыйнае распаўсюджанне думка пра "Нашу ніву" як газету ліберальна-буржуазную, а яе выдаўцы мелі ярлыкі буржуазных нацыяналістаў, ворагаў рэвалюцыі і народа. Нават спроба Ц. Гарбунова, чалавека з высокай партнаменклатуры, адстаяць рэнамэ газеты як прагрэсіўнай, што "бараніла інтарэсы працоўнага народа ды змагалася за адраджэнне беларускай літаратуры й стварэнне беларускай дзяржаўнасці" была перапынена вокрыкам "Коммуниста Белоруссии" (1964 год): "Ранейшая ацэнка "Нашай нівы" навукова абгрунтаваная...").

Так што за спакойным, навукова-аналітычным зместам, за стрыманым, роўным ладам пісьма былі смеласць і рызыка. І тая самая апантанасць верніка ад ведаў. Чалавека, што выношваў у бібліятэках, у кнігасховішчах, архівах нацыянальную ідэю. Дарэчы, у адносінах да самога сябе філосаф так пазначыць уплыў "Нашай нівы": "Яна запраграмавала на родную мову, літаратуру, нацыянальную культуру, "вымыла" мяне ад рэшткаў універсітэцкай дэнацыяналізацыі". "Нашаніўская" пара, эстэтыка і творчасць нашаніўцаў: Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Антона Луцкевіча, а таксама грамадская і літаратурная думка 20-х гадоў XX стагоддзя -- увесь час у полі зроку У. Конана, пад ягонай пільнай увагай. Кніга "Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма Багдановіча" (Мн., 1991), згаданая публікацыя Л. Гмырака, нарыс "Антон Луцкевіч: філасофія і эстэтыка нацыянальнага Адраджэння" ("Голас Радзімы", 1994), кніга "Адам Бабарэка" (Мн., 1976).

З цягам часу ўзмацняецца тэарэтычная заглыбленасць, канцэптуальны, быційны кшталт прац даследчыка. Узмацняецца разуменне місіі беларусаў (не месіянства!), што маюць сваё гістарычнае прадвызначэне, свой нацыянальны, агульны талент, які яны "абавязаны аддаць "у рост" агульначалавечай духоўнасці". У. Конан распрацоўвае асноўныя катэгорыі, паняцці эстэтыкі, тэорыі літаратуры і мастацтва, даследуе маштабныя, глабальныя праблемы, што датычаць сусветнай і нацыянальнай культур. Артыкулы ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва" (5 тамоў) (У. Конан -- ці не самы актыўны аўтар), у "Гісторыі беларускага мастацтва" (6 тамоў), "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" (12 тамоў), у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (выйшаў першы том), у энцыклапедычных даведніках "Янка Купала", "Францыск Скарына і яго час".

У 80-м годзе Уладзімір Конан абараняе доктарскую дысертацыю "Станаўленне эстэтычнай думкі Беларусі X ст.--1917 г.", падсумоўваючы шматгадовую працу. І -- выкіроўваючыся думкай да асноўнага свайго напрамку. Пашыраючы і паглыбляючы праблематыку: у 1989 годзе з'яўляецца яго праца "Ля вытокаў самапазнання. (Станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору)". Увогуле фальклор, светапогляд сялян (у тым разуменні гэтага паняцця, якое ўкладваў у яго Шпенглер, лічучы сялянамі і вясковую шляхту, і памешчыкаў) -- заўсёдная і асаблівая прыхільнасць У. Конана. Пачынаюць з'яўляцца артыкулы даследчыцкага і крытычнага кшталту канкрэтна па літаратуры і літаратурным працэсе. Ну, і, безумоўна, гісторыя філасофіі, філасофія гісторыі, філасофія культуры. Публікацыі ў "ЛіМе", "Нёмане", "Мастацтве", "Голасе Радзімы", маскоўскай "Литературной газете". Удзел у шматлікіх "круглых сталах", у друку і на тэлебачанні, выступленні на канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах.

...Публікацыі спадчыны, прадмовы, каментары. І -- як знак: элітны, эзатэрычны ўзровень. І -- сялянская працавітасць. Доктар філасофіі Конан не баіцца чорнай, так бы мовіць, дадатковай працы. Філасофскае эсэ Сулімы (У. Самойлы) "Гэтым пераможаш!" --вызначальны, праграмны твор для беларусаў -- ён сам падрыхтаваў да друку (праца друкавалася ў "Нёмане"), сам пераклаў, сам зрабіў каментар. Хаця нехта іншы ягонага навуковага рангу абмежаваўся б прадмовай. Прадмова, зразумела, яго пяра.

Праца Самойлы мае кардынальна важную для У. Конана думку, важную і для гістарычнага развіцця, для светапогляду беларусаў як нацыі: развіццё цывілізацыі, прагрэс у свеце павінны ісці толькі шляхам творчай эвалюцыі, а не спосабам разбуральных рэвалюцый. "Рэвалюцыя -- крывавы антракт гісторыі", -- гэтая думка Самойлы надзвычай блізкая Конану. У згаданым дыялогу з Залоскам Уладзімір Конан "накладвае" яе на сённяшнюю палітычную сітуацыю: "Гэтага не захацела партыйна-бюракратычная сістэма. На ёй -- віна за няўдачу эвалюцыйнага абнаўлення". Але -- філосаф глядзіць на праблему "стэрэаскапічна", менавіта як мысленнік, мудрэц. І БНФ (Беларускі народны фронт), адным з заснавальнікаў якога ён быў, не заўсёды выяўляе шырыню погляду: "Яго (БНФ) першая "віленская" праграма арыентавалася на эвалюцыю і супрацоўніцтва з ініцыятарамі перабудовы -- "лепшымі сіламі КПСС". Сёння некаторыя лідэры БНФ сарамліва дэзавуіруюць гэтую праграму. А шкада. Эвалюцыя і канфедэрацыя давалі рэальны шанс коштам найменшых страт ажыццявіць праграмы дэмакратыі, нацыянальнага Адраджэння, сацыяльнай і эканаміічнай стабільнасці".

Уладзімір Конан аб'ектыўна асэнсоўвае аб'ектыўную рэальнасць. Абапіраючыся на гістарычны вопыт і напрацоўкі сённяшніх філасофскіх, паліталагічных, сацыялагічных, культуралагічных школ і індывідуальных даследаванняў. Дыяпазон яго ведаў надзвычай шырокі. Даследчык. Публіцыст. Журналіст. Крытык. Літаратуразнаўца. Ну, і, безумоўна, паперадзе -- эстэтык, філосаф. Чалавек, які ўмее спалучаць фундаментальныя распрацоўкі з аператыўнымі выступленнямі ў перыёдыцы. Да таго ж -- заўсёды ў пару (сведчу гэта як рэдактар "Нёмана") і заўсёды на высокім мысліцельным узроўні. Умее заглыбіцца ў даўніну. І -- знайсці час напісаць лірычна-філасофскае эсэ пра беларускага паэта ў Польшчы Яна Чыквіна ("Голас Радзімы"), зрабіць пасляслоўе да кнігі Сяргея Дубаўца, аднаго з самых таленавітых, але і самых спрэчных, задзёрыстых сённяшніх літаратараў, зрабіць тактоўна, добразычліва, разгледзець пробы пяра рэдактара сучаснай "Нашай нівы" ў кантэксце еўрапейскай і сусветнай літаратурнай і культуралагічнай практыкі (а трэба ведаць, які жорсткі адмаўленчы імпэт мае аўтар "Практыкаванняў").

Сам У. Конан падкрэсліваў неяк, што зараз займаецца больш фалькларыстыкай і літаратуразнаўствам. Але, на мой погляд, хутчэй вядзе шырокі фронт даследаванняў у рэчышчы той самай беларускай эстэтычнай і свядомаснай плыні, што неаддзельная ад мастацтва і літаратуры, фальклору, сацыялогіі, філасофіі. Часам -- і эканомікі: гл. "круглы стол" "Беларускі шлях" у "Нёмане". Звернем увагу хаця б на праблематыку апошніх яго прац: "Пра беларускую ідэю", "Вера і нацыя: хрысціянства ў беларусаў". (Абедзве друкаваліся ў "Нёмане"). (У апошнім названым артыкуле У. Конан, дарэчы, як У. Салаўёў, Д. Меражкоўскі, як сучасныя прагрэсіўныя дзеячы хрысціянскай царквы, падтрымлівае ідэю экуменічнай, агульнахрысціянскай царквы). Згаданы артыкул пра Антона Луцкевіча таксама пазначаны: філасофія і эстэтыка нацыянальнага Адраджэння. І раней выдадзеныя ў бібліятэчцы "Голасу Радзімы" кнігі таксама маюць вызначальны напрамак: "Боская і людская мудрасць" (пра Францішка Скарыну, 1990), "Святло для людзей" (аб ролі і значэнні роднай мовы ў развіцці культуры, 1989).

...Доктар філасофскіх навук, загадчык аддзела гісторыі і культуры Цэнтра Францыска Скарыны, чалавек, пад кіраўніцтвам якога распачата тыпалагічнае даследаванне беларускай культуры. Чалавек, які настроены на згоду, кансалідацыю прагрэсіўных сіл. Які ведае -- без кампрамісаў-пагадненняў немагчыма паразуменне. Але мае на ўвазе тыя кампрамісы, што не вымагаюць змоў з сумленнем. Адмаўлення ад справы жыцця -- служэння беларускай ідэі.

У 1986 годзе гэтая справа аказалася пад пагрозай. Сур'ёзнай. Пасля апублікавання ў Лондане кнігі А. Бембеля ў абарону роднае мовы аддзел эстэтыкі і сацыяльнай псіхалогіі Інстытута філасофіі АН БССР, на чале якога быў У. Конан і дзе рабіліся высілкі адстаяць тую самую беларускую плынь у "моры зрусіфікаванай філасофіі", расфарміравалі. Спатрэбіліся і філасофскі гарт, і стаіцызм, і славутая беларуская трывучасць, каб набыць і захаваць сілы для рашучага, вызначальнага кроку -- дзейнасці дзеля беларускага Адраджэння 80-х -- пачатку 90-х гадоў.

Еўрапейскі ўзровень. Грунт ведаў, Упэўненая -- праз усё жыццё -- прыхільнасць да прыроднага, устойлівага існавання. Сялянская ўчэпістасць і ўстойлівасць. Уладзімір Конан -- з сялян. Тут, праўда, ёсць не толькі свае перавагі. Здараецца, што раптам, у празарэннях мысліцеля, праслізне "правал" зусім нейкай "першай ступені". "Усе мы з хат" -- тут ёсць свае пасткі... Але перавагі -- мацнейшыя.

"Умею любую сялянскую працу правіць. І касіў, і каня запрагаў, і сена стагаваў...", -- згадваў неяк Уладзімір Міхайлавіч. Вядомы ён яшчэ як слынны грыбнік. Хаця -- якія грыбы сёння, пасля Чарнобыля, на нашай Навагрудчыне? Ён -- адтуль, з нашых краёў. І мне здаецца, што я не памылюся, калі скажу, што з цягам часу ягонае прозвішча будзе згадвацца сярод прозвішчаў самых слынных нашых землякоў.

З цягам часу... А сёння... Сёння дзеяч Адраджэння, адзін з найсвятлейшых нашых розумаў і талентаў жыве недзе на ўскраіне -- мяркую па тэлефоне і адрасе ў пісьменніцкім даведніку. Падобна -- не ў шыкоўных апартаментах. Хаця ён ніколі пра тыя нязручнасці ані знаку не падаў. Аскетычна строгі. Стрыманы. Гарэхі, кава, гарбата -- вось і ўвесь рацыён. "Мне так лягчэй", -- даводзіць Уладзімір Конан.

Падцягнуты. Негаманкі. Засяроджаны. Гамана сходу -- а ён і прыслухоўваецца, і трымае з сабою Новы запавет. Прымервае да сітуацыі?

23-га красавіка, сёлета, ён адсвяткаваў свой 60-гадовы юбілей. Узрост мудрасці. Ён і прыйшоў да яго -- мудры. З набыткам зробленага. З біблейскі-разумным поглядам на свет.

Prosperity? Што гэта такое? Вось зараз усе вядуць размовы пра тое, што нам край як патрэбна дапнуцца да так званых цывілізаваных краін. Уладзімір Конан скептычна глядзіць на сённяшняе захапленне заходняй дэмакратыяй (ЗША ў прыватнасці). "...глыбінныя тэндэнцыі больш важныя і перспектыўныя, як эмпірычная, "сённяшняя" рэальнасць. Пра нацыянальную ідэю варта было б меркаваць не па эмпірычнай "масе", а па нацыянальнай эліце. Можа, беларусы (і славянскі свет) ідуць да Бога, а сённяшнія "багатыя развітыя краіны" -- у процілеглым напрамку...

Магчыма, надыходзіць час "ім меншыцца, а нам расці". Адзін Бог ведае! Але і мы маем права "часткова ведаць, часткова прароцтваваць".

Гэтае права, безумоўна, займеў Уладзімір Конан. Чалавек свайго часу. І будучага. Постаць Адраджэння.

**Ала СЯМЁНАВА.**

# БЕЛАРУСЬ – МАЯ МАТУЛЯ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Я аддала педагагічнай справе 36 гадоў, працавала на розных пасадах у Мядзельскім раёне і ў Паставах, дзе зараз і жыву, атрымліваючы пенсію. Хоць я закончыла педінстытут па спецыяльнасці фізіка і матэматыка, але вельмі люблю рускую літаратуру, ведаю добра рускую мову, і, як бачыце, не згубіла і не забыла сваю родную беларускую мову. І зараз вяду работу па адраджэнню гэтай мовы ў сваім раёне і горадзе. Часта выступаю ў школах і іншых калектывах. У апошнія гады шмат займаюся паэзіяй, пішу вершы. З'яўляюся членам літаб'яднання "Світанак" пры Пастаўскай раённай газеце. Там мае вершы часцей за ўсё друкуюцца. А яшчэ яны друкаваліся ў газетах "Віцебскі рабочы", "Беларуская ніва", "Савецкі настаўнік", у "Настаўніцкай газеце", у часопісах "Работніца і сялянка", "Роднае слова", "Вожык", гучалі па абласным і рэспубліканскім радыё, запісвалася я і на тэлебачанні. Друкаваліся мае вершы ў альманахах "Рунь"-91, 92, 93; а прыпеўкі -- у "Звяздзе".

Мне даўно хацелася пасдаць прывітанне землякам, што воляй лёсу адарваліся ад родных мясцін і, я думаю, час ад часу з сумам у душы ўспамінаюць нашу агульную, дарагую і прыгожую, адзіную Радзіму -- Беларусь. І каб зрабіць гэтыя ўспаміны больш яскравымі і свежымі, я пасылаю некалькі сваіх вершаў.

Іх, у першую чаргу, я адрасую старэйшаму пакаленню. Асабліва тым юнакам і дзяўчатам, хто быў вывезены ў Германію, хто за колькі хвілін развітаўся назаўсёды з бацькамі, Радзімай, хто атрымаў благаславенне на жыццё ў далёкіх краінах, не ведаючы не толькі чужой мовы, а наогул амаль што без адукацыі. Зараз гэтыя ўжо сталыя людзі, можа жывуць і лепш за нас. Але я не магу без болю ўспамінаць, хоць была яшчэ малой у 1943 годзе (мела 10 гадоў), як адрывалі хлопцаў і дзяўчат ад беларускіх хат. Вітаю і тых беларусаў, хто па іншых прычынах аказаўся за мяжой. Усяго вам найлепшага, браткі-беларусы, дзе б вы ні былі. Сваім цярпеннем і нястомнай працай вы заслужылі шчаслівай долі.

З павагай і даверам
**Ніна ЗАХАРЭВІЧ.**

## БЕЛАРУСЬ МАЯ

Беларусь -- мая бабуля
У бялюсенькай кашулі
З ільнянога палатна.

Беларусь -- мая матуля,
Над табой свісталі кулі,
Гора зведала спаўна.

Беларусь -- мая сястрыца,
Мне Чарнобыль часта сніцца,
Найвялікшая з няўдач.

Беларусь -- мая дачушка,
я хачу цябе пагушкаць,
Вытры слёзы і не плач.

Беларусь -- мая унучка,
Заспявай жа песню гучна,
Станеш светлай, як была.

Беларусь -- мая бабуля,
Беларусь -- мая матуля,
Што я маю, ты дала.

## МАЁ ЗАСТАЛОСЯ ТАМ СЭРЦА

Нічым непрыкметнае месца, здаецца,
Дзе бацькава родная хата была,
Там бор не шуміць і рака там не ўецца,
Аж тры кіламетры адтуль да сяла.

Драўлянай была мая мілая хата,
Палілася печка альховым галлём,
А поле радзіла не вельмі багата,
Хоць бацькавы рукі былі з мазалём.

Ад веку рудое балота навокал,
Ды кволыя сосны вякамі растуць,
Лужок не пацешыць старонняе вока,
Там дробныя, сціплыя кветкі цвітуць.

Зімою вятры і марозы шалелі,
І вылі падоўгу ваўкі па начах,
Ад холаду шчокі і вусны бялелі,
Як пешшу пускаўся ў далёкі хто шлях.

Бывала, старая сава навяшчуе
Няшчасце, бяду нечакана ўначы,
То самы бліжэйшы сусед на пачуе,
Хоць ты з усёй моцы сваёй закрычы.

Чужому нічым непрывабнае месца,
Дзе бацькава, родная хата была.
Маё ж там навекі пакінута сэрца.
І кліча мяне, куды б я ні пайшла.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**



Упершыню мінскія гледачы змаглі пазнаёміцца з сучасным балетам Францыі. У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі адбыўся спектакль "Міганне месяца". Гэта тры харэаграфічныя мініяцюры, створаныя Мішэлем Келеменісам на музыку Клода Дэбюсі. У іх Мішэль Келеменіс, які выступае і як харэограф, і як танцоўшчык, разам з пяццю выканаўцамі спрабуе спасцігнуць вобразнасць, паэтыку і багацце харэаграфічнага слоўніка, віртуознай мовы рухаў і жэстаў.

НА ЗДЫМКУ: сцэна з харэаграфічнай мініяцюры "Пыльнік".

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

*НОВАЕ ІМЯ Ў ЛІТАРАТУРЫ*

# ПЕРАМОГА НАД НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЮ

Для чытача, пэўна ж, не будзе навіной нашумелая "Віцебская справа". Шмат увагі ў свой час надавалі ёй сродкі масавай інфармацыі. З іхніх крыніц вядома, што ў цянёты гэтай сумнай "справы" трапіла шмат людзей, як вінаватых, так і выпадковых. Сярод іх -- былы пракурор Валеры Сарока. Ён прымаў актыўны ўдзел у расследаванні "справы", але... Па волі пакручастага лёсу сам трапіў на лаву падсудных. Яго абвінавацілі ў парушэнні сацыялістычнай законнасці. Аказаўшыся за кратамі, ён знайшоў у сабе мужнасць напісаць шэраг дакументальных кніг, у якіх выкрыў недасканаласць сістэмы праваахоўных органаў і суда, "беспредел", што пануе ў правасуддзі. Коштам аграпрадпрыемства "Ранет-92" выдадзена частка напісанага -- гэта "Витебское дело, или Двуликая Фемида" (2 кнігі), "Оставь надежду...", "Спасите наши души". Што падштурхнула Валерыя Сароку ўзяцца за пяро ва ўмовах следчага ізалятара? Адказ на гэтае пытанне аўтар дае ў сваёй першай кнізе: "Желание одержать победу над несправедливостью, разорвать замкнутый круг порочной системы дознания, следствия, правосудия и заключения, в жерновах которой побывали миллионы людей, заставило написать эту книгу".

У сталічным Доме літаратара адбылася прэзентацыя кніг Валерыя Сарокі. У ёй прынялі ўдзел вядомыя майстры слова. Прафесар Алег Лойка, які, дарэчы, рэкамендаваў аўтара ў Саюз пісьменнікаў, у сваім выступленні разважаў пра адзіноцтва: "Неяк у Васіля Быкава студэнты спыталі, чаго яму не стае? Ён адказаў: адзіноцтва. Адзіноцтва Валерыя Сарокі было жахлівым. Але і гэтаму адзіноцтву можна пазайздросціць, бо ў ім здзейснілася неверагоднае. Падзвіжніцкім пяром напісаліся горкія і праўдзівыя кнігі, якія сталі балючым і унікальным набыткам нашай літаратуры". Што да мовы твораў, то Алег Лойка вызначыў яе як мову, спароджаную часам, з адметнай гулагаўскай лексікай, і таму кнігі, на ягоную думку, не павінны перакладацца. Гэта цяжка і непатрэбна. Пра грамадзянскі подзвіг Валерыя Сарокі, які ў неверагодных для сябе ўмовах адкрыў новую старонку ў нашай літаратуры, паказаў сістэму сучасных гулагаў, гаварыў пісьменнік Анатоль Жалязоўскі. Старшынстваваў на вечарыне празаік Алесь Жук. Дыктар Беларускага тэлебачання Валянцін Аксянцюк прачытаў урыўкі з кніг. Удалым дапаўненнем вечарыны было выступленне піяністкі Ірыны Шумілінай. У яе выкананні прагучалі творы Шуберта, Ліста, Рахманінава.

Заключнае слова трымаў аўтар кніг. Ён распавёў аб сваёй літаратурнай працы, якая дапамагла яму выжыць, адказаў на пытанні, выказаў падзяку арганізатарам вечарыны, фундатарам, выдаўцам, сябрам, якія падтрымалі яго ў цяжкія хвіліны. Так, неспадзявана для сябе і для іншых, прыйшоў у нашую літаратуру Валеры Сарока.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | лі-тар

на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераад-расоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Нагадваем нашым чытачам, што ў прадпрыемствах "Саюздруку" і паштовых аддзяленнях ідзе падпіска на "Голас Радзімы" на трэці квартал 1994 года. Спяшайцеся! Падпіска доўжыцца з 5-га мая па 15-е чэрвеня.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**29 мая, нядзеля**

### МАКСІМ ВАШЧАНКА

"Стараннем і коштам Максіма Вашчанкі выдана" -- такія словы часта можна сустрэць на тытульных аркушах беларускіх старадрукаў -- выданняў магілёўскай брацкай друкарні канца XVII -- пачатку XVIII стагоддзяў. Праз тры стагоддзі данеслі да нас гэтыя кнігі непаўторны дух далёкай эпохі.

Для Максіма Вашчанкі -- аднаго з арганізатараў магілёўскай брацкай друкарні, яе першага арандатара і мастака -- выданне кніг сапраўды стала справай жыцця. Ён рыхтаваўся да яе доўгія гады.

Максім Вашчанка атрымаў адукацыю ў Вільні. 21 лістапада 1672 года ён здаў экзамен на ступень бакалаўра філасофіі і свабодных мастацтваў. А ў наступным годзе там жа атрымаў званне магістра навук. У тыя ж юнацкія гады Максім Вашчанка пазнаёміўся з вядомым мастаком-графікам Аляксандрам Тарасевічам і пад яго непасрэдным уплывам авалодаў складанай тэхнікай гравюры на метале. І вось першая самастойная работа -- серыя ілюстрацый да кнігі П. Рыко "Турэцкая манархія" (1678 год, Слуцк). З амаль дзіцячай непасрэднасцю апісвае аўтар кнігі бытавы ўклад, строгі этыкет, норавы і звычаі турэцкага двара; услед за ім Максім Вашчанка падрабязна ілюструе ўсе гэтыя жывапісныя апісанні. Але каго б ні адлюстроўваў Максім Вашчанка ў сваіх гравюрах -- простага воіна, імама, дэрвіша, самога султана ці нават знявечанага негра-вартаўніка султанскіх жонак, -- усе гэтыя людзі на турак падобныя значна менш, чым на знаёмых мастаку з дзяцінства жыхароў беларускіх гарадоў і вёсак.

Імкненне паказаць у сваіх работах тое, што добра знаёма і любіма, уласціва і ўсім наступным творам мастака. Больш за 30 гравюр выканаў М. Вашчанка да "Акафістаў і канонаў" 1693 года. Гэты ілюстрацыйны цыкл -- самы характэрны і сапраўды наватарскі твор мастака. Ілюстрацыі выкананы ў тэхніцы гравюры на медзі, а не ксілаграфіі, якая шырока выкарыстоўвалася ў беларускіх кірылічных выданнях. Амаль усе аркушы маюць аўтарскі подпіс, што таксама сустракаецца не часта. Але галоўнае ў тым, што М. Вашчанка стварыў самы поўны "новазаветны" цыкл у беларускай кніжнай ілюстрацыі свайго часу.

Арыентаваныя на традыцыі заходнееўрапейскага мастацтва, гравюры Максіма Вашчанкі здолелі зберагчы і непасрэдную сувязь з народнай эстэтычнай свядомасцю. Наіўна-рэалістычнае ўзнаўленне рэчаіснасці, увага да эмацыянальнай дакладнасці падзей, імкненне да стыхіі арнаменту, мясцовы этнічны тыпаж, адлюстраванне народнага побыту -- усё гэта збліжае творы Максіма Вашчанкі з работамі народных майстроў, ставіць іх побач з лепшымі творамі нацыянальнага мастацтва.

**Алена ПІКУЛІК.**

## СПОРТ

### СВЯТА НА НАШАЙ ВУЛІЦЫ



**Даўно мы чакалі таго дня, калі футбалісты Рэспублікі Беларусь вызначацца на міжнародных спаборніцтвах. І такі час настаў. Паспяхова правялі папярэднія гульні адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы нашы юніёры. У рашаючых матчах яны двойчы сустрэліся з венгерскімі футбалістамі. Першую гульню ў гасцях нашы землякі завяршылі пераможна -- 2:1, а ў другой, у Маладзечне, была зафіксавана нулявая нічыя. Па суме дзвюх сустрэч беларуская каманда выйшла ў фінал.**

**НА ЗДЫМКУ: радасць перамогі.**

### ПЕРАМАГАЕ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫ ДУЭТ

Стала ўжо звычным бачыць у адной пары мінчанку Наталлю Звераву і амерыканку Джыджы Фернандэс на многіх буйных спаборніцтвах. За апошнія гады інтэрнацыянальны дуэт нікому не прайграе.

Нядаўна гэтыя спартсменкі ўдзельнічалі ў адкрытым першынстве Італіі, дзе зноў занялі першае месца.

### ВЕДАЙ НАШЫХ!

Шэсцьдзесят сем экіпажаў вялі барацьбу за званне чэмпіёнаў на адкрытым першынстве Еўропы ў гонках яхтсменаў. Сярод удзельнікаў былі двухразовыя чэмпіёны свету амерыканец Вінсент Брун і немец Аляксандр Хаген, шматразовы прызёр рэгаты аўстрыец Хуберт Раўдаша і іншыя.

У такой моцнай кампаніі беларускія спартсмены Сяргей Харэцкі і Уладзімір Зуеў заваявалі бронзавыя медалі.

### БЕЗ МАЦНЕЙШЫХ

паехала на чэмпіянат Еўропы па цяжкай атлетыцы зборная Рэспублікі Беларусь. І вось вынік: толькі Алег Чырыца змог прабіцца ў лік прызёраў (другое месца ў вагавай катэгорыі да 99 кілаграмаў).

А што мацнейшыя? Яны, калі паслухаць трэнераў і спецыялістаў, рыхтуюцца да маючага адбыцца першынства свету.

### ЦІ БЫЎ РЭКОРД?

На гэта пытанне, вынесенае ў загаловак, пакуль ніхто не можа адказаць. А здарылася вось што. На розыгрышы Кубка Мінска па лёгкай атлетыцы Аляксандр Главацкі зрабіў скачок у даўжыню на 8 метраў 21 сантыметр, што з'яўляецца новым рэкордам Беларусі. Але суддзі не рашыліся зафіксаваць гэта дасягненне, бо "пад рукамі не аказалася ветрамеру". Парадокс ды і годзе!

### ІДЗЕ АМАЛАЖЭННЕ

У Стакгольме прайшоў чэмпіянат Еўропы па спартыўнай гімнастыцы сярод жанчын. За агульнакамандную перамогу спрачаліся зборныя Расіі і Румыніі, якія заваявалі найбольшую колькасць медалёў.

Па розных прычынах пакінулі вялікі спорт вядомыя беларускія спартсменкі. І таму ў Швецыі ў іх толькі адна "сарэбраная" ўзнагарода. Вызначылася Алена Піскун.

У беларускай камандзе ідзе амалажэнне саставу. На гарызонце з'явілася цэлая група перспектыўных спартсменак. Сярод іх Алена Палазкова, Святлана Тарасевіч, Юля Сабко і іншыя.

## ВАЙНА НАПАМІНАЕ АБ САБЕ

У ваенным гарадку Калодзішчы пры закладцы жылога дома будаўнікі выявілі вялікую колькасць боепрыпасаў, якія праляжалі там з часу Вялікай Айчыннай вайны. Тэрмінова выехала на месца група баявога размініравання. У першы ж дзень дасталі з катлавана глыбінёй 1,5 метра 227 выбуханебяспечных прадметаў, у асноўным мінамётных мін, снарадаў, гранат як нямецкай, так і айчыннай вытворчасці. Крыху пазней было знойдзена яшчэ 50 мін. Сапёры закончылі работу, але гатовы ў любы момант выехаць, па першаму ж выкліку. Будаўнікі ж атрымалі магчымасць прадоўжыць прыпыненыя работы.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 719. Падпісана да друку 23. 5.1994 г.